ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЙ І ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XL АДДЗЕЛ ЭКОНОМІІ І ОРГАНІЗАЦЫІ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ Вып. 14

С. П. МАРГЕЛАЎ

# СУПРОЦЬ БЕЛАРУСКАЕ КАНДРАЦЬЦЕЎШЧЫНЫ



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

## Заўважаныя памылкі друку:

| Старонка | Радок зьверху | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|
| 16 | 25 | і замешчаны | і не замешчаны |
| 27 | 9 | і ўнутры яе гаспаларчага руху | і яе ўнутры гаспадарчага руху |
| 27 | 28 | апрацоўка | аддзелваньне |
| 38 | 8 | länge | lange |
| 38 | 23 | länge | lange |
| 40 | 17 | Паглядзім | Праглядзеў |
| 53 | 9 | констатуе | конструіруе |
| 56 | 27 | фактару | фактараў |
| 67 | 36 | гаспадарак. А таксама | гаспадарак, а таксама |
| 70 | 23 | прыкладаў | прыладаў |
| 72 | 9 | соцыялістычнага | соцыолёгічнага |
| 72 | 17 | павялічэньне | па велічыні |
| 74 | 2 | ды ў | дык у |
| 74 | 13 | разьліліся | расьсяліліся-б |

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЙ І ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XI. АДДЗЕЛ ЭКОНОМІІ І ОРГАНІЗАЦЫІ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ Вып. 14



С. П. МАРГЕЛАЎ

# СУПРОЦЬ БЕЛАРУСКАЕ КАНДРАЦЬЦЕЎШЧЫНЫ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

# ПРАДМОВА.

Жорсткае клясавае змаганьне, якое мае месца навакол соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, праяўляецца ў рознастайных формах і адбіваецца ў шматлікіх водценях. Змаганьне закаранелых форм, тэндэнцый і навычак капіталістычнага разьвіцьця вёскі з новымі соцыялістычнымі формамі будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы пачынаецца з цёмных вясковых закуткаў і ўдушлівых ад тытунёвага дыму ды лаянкі сходак і канчаецца ў прытульных гарадзкіх габінэтах вучоных і на навуковых дыспутах. Ад гэтага змаганьня тхне ня толькі порахам каравых кулацкіх абрэзаў, але і плямамі чарніла, праліванага з аўтоматычных асадак кулацкіх ідэолёгаў у галіне навукі, мастацтва ды інш.

Як кулак зьмяняе і прыстасоўвае сваю тактыку змаганьня з соцыялістычным будаўніцтвам у сельскай гаспадарцы ў залежнасьці ад абставін, імкнучыся ў асноўным да развалу гэтага будаўніцтва, так і кулацкі ідэолёг, у залежнасьці ад часу і ўмоў, праводзіць у розных формах сваю шкодную работу па падрыву соцыялістычнае рэконструкцыі вёскі, па накіраваньні разьвіцьця апошняе па шляху рэстаўрацыі капіталізму.

Прымаць сьвядомы і актыўны ўдзел у змаганьні за соцыялістычнае будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы, а тым больш кіраваць бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства, у гэтым змаганьні—будаўніцтве,—кіраваць наогул гэтым змаганьнем гэта абазначае ведаць ня толькі тактыку кулака, але ведаць і яго стратэгію,—умець разьбірацца ва ўсіх вібрацыях ідэолёгічных адбіткаў імкненьняў кулака.

На апошнім вучастку змаганьня мы значна адсталі. Крытыка буржуазнае і дробна-буржуазнае, а разам, па сутнасьці аднолькава контррэволюцыйнае, тэорыі на аграрным фронце пачалася зусім нядаўна, ня кажучы ўжо аб station... 

праблем з практыкі соцыялістычнага будаўніцтва. Асноўная прычына такога становішча заключаецца ў нязначнасьці нашых кадраў; яны яшчэ толькі пачынаюць адзінкамі ўзыходзіць на барыкады, што абумоўлена нізкавокасьцю і опортуністычнасьцю кіраўніцтва зямельнаю палітыкаю на працягу шэрагу год з боку пануючай тады, так званае, «прышчэпаўшчыны», а разам з ёю буржуазных і дробна-буржуазных, або наогул нацыянал-дэмократычных элемэнтаў у аграрным пытаньні на БССР.

Тыя, хоць і нязначныя, дасягненьні, якія мы маем у кірунку выкрыцьця і тэорытычнага разбройваньня кандрацьцеўшчыны і нэо-народніцтва ў БССР, не вядомы шырокім колам партыйных і комсамольскіх мас, а таксама вучнёўству і бядняцка-серадняцкаму актыву вёскі—тымчасам, як патрэба ў гэтым надзвычайная. Частковае запаўненьне гэтае патрэбы і зьяўляецца задачаю данае працы.

Праца гэтая—«Супроць беларускае кандрацьцеўшчыны»—зьмяшчае ў сабе некалькі крытычных нарысаў і ахапляе як мінулае і сучаснае становішча навукова-дасьледчае працы ў галіне сельска-гаспадарчае экономіі і організацыі на БССР, з выяўленьнем у гэтай працы шкоднае сыстэмы беларускае кандрацьцеўшчыны, так і крытыку пасобных галоўных прац у гэтым кірунку і пералік некаторых крытычных прац іншых аўтараў. Пры гэтым, мы закранаем у гэтай працы толькі беларускіх прадстаўнікоў дробна-буржуазных і буржуазных тэорый у аграрным пытаньні,—тых прадстаўнікоў, якія маюць своеасаблівую афарбоўку беларускага нацыянал-дэмократызму. Апрача таго, праца грунтуецца толькі на дасьледваньнях аўтара ў гэтым кірунку, з належнымі спасылкамі на існуючыя працы іншых аўтараў.

Усё гэта трэба прымаць пад увагу пры ацэнцы данае працы, якая, далёка не ахапляючы па сваёй тэме ўсіх момантаў ідэолёгічнага клясавага змаганьня на аграрным фронце ў БССР, паводле нашай думкі, дасьць чытачу пэўную карысьць.

*АЎТАР*

30-VI-30 г.

г. Менск.

---

## ДАСЬЛЕДЧАЯ СПРАВА Ў ГАЛІНЕ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЙ ЭКОНОМІІ І ОРГАНІЗАЦЫІ НА БССР.

Задача, якую мы ставім перад сабою ў гэтым нарысе, заключаецца ў тым, каб даць крытычны агляд мінулага і сучаснага стану навукова-дасьледчае справы ў галіне сельска-гаспадарчай экономіі і організацыі як з боку яе організацыйных форм, так з боку тэматыкі і мэтоду. Таму, над характарыстыкай паасобных прац мы спынімся ў далейшым, а пакуль-што напомнім аб некаторых з іх.

Аб даваенным стане навукова-дасьледчае справы ў галіне с.-г. экономіі і організацыі на Беларусі ня можа быць доўгай гутаркі, бо ў той час навукова-дасьледчае справы, як такавой, зусім ня было.

У задачу акраіннае політыкі царскага ўраду былой «адзінай і неподзельнай» Расіі зусім не ўваходзіла наданьне такой роскашы «адсталым народнасьцям». Такія рэчы падмяняліся сапраўднай колёніяльнай політыкай з неаддымнымі ад яе атрыбутамі: узмоцненым соцыяльным і нацыянальным уціскам, аграрызацыяй і, як вынік, экономічнай і культурнай адсталасьцю. Таму мы цяпер можам гаварыць толькі аб некаторых статыстычных матэрыялах з дарэволюцыйных часоў на Беларусі, як даныя ЦСК, Губэрскія справаздачы і перапісы, с.-г. перапісы 1916, 1917 ды іншых гадоў, даныя Транспортнае статыстыкі і некаторыя працы статыстычнага характару, як Ф. Ястрэмскага ды інш. Вось усё тое, што нам засталося ад царскага ладу ў гэтай галіне.

Організацыйнага афармленьня або грунтоўных прац у галіне навуковых дасьледваньняў па с.-г. экономіі і організацыі зусім ня было. Не вялося на Беларусі нават і такой працы, як земская статыстыка.

З падобнага роду статыстычных матэрыялаў пасьлярэволюцыйных часоў можна адзначыць Перапіс 1920 г. і штогоднія працы ЦСКБ па вясеньніх і асеньніх роспытах 0,1 часткі гаспадарак, а таксама бюджэт-

ныя матэрыялы па гнёздах, закладзеных у розных раёнах БССР у ліку каля 20.

Апрача гэтых прац, чыста статыстычнага характару, у пасьлярэволюцыйныя часы пачынае паступова, разгортвацца сапраўды дасьледчая праца ў галіне с.-г. экономіі і організацыі. Гэтая праца, ня маючы ў першыя часы пэўнае лёкалізацыі і організацыйных форм, праводзілася як існаваўшымі тады сельска-гаспадарчымі інстытутамі Менскім і Горы-Горацкім, так НКЗБ, Інбелкультам і проста паасобнымі працаўнікамі. Друкаваныя працы паасобных аўтараў зьмяшчаюцца як у запісках памянёных інстытутаў, так і ў часопісу «Народнае хозяйство ССРБ» і паасобнымі выданьнямі.

Тут трэба адзначыць агульную рысу, якая ўласьціва ўсёй гэтай працы. Гэта—адсутнасьць у ёй організацыйнага аб'яднаньня, і адгэтуль адсутнасьць плянаваньня ды ідэолёгічнага кіраўніцтва ёю.

Толькі з часу організацыі Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту (26/I-1927 г.) пачынаецца некаторае організацыйнае афармленьне як наогул навукова-дасьледчае справы па сельскай і лясной гаспадарцы БССР, так і ў прыватнасьці па с.-г. экономіі і організацыі.

Організацыйнае афармленьне і кіраваньне апошняю галінаю навукова-дасьледчае справы ўскладаецца на аддзел сельска-гаспадарчае экономіі і аграрнае політыкі БНДІ, які існаваў аж да канца 1929 г., калі (15/XII-29 г.) ён быў рэорганізаваны ў Аддзел Экономіі і Організацыі Соцыялістычнае Сельскае Гаспадаркі на грунце новага пэрспэкцыйнага і рабочага пляну працы.

Цяпер мы спынімся над характарыстыкай 3-гадовай працы былога Аддзелу С.-г. Экономіі і Аграрнай Політыкі як з мэтаю крытычнае яе ацэнкі, так і з мэтаю складаньня належнага ўяўленьня аб падставах, неабходнасьці і сутнасьці зробленай рэорганізацыі.

Перш за ўсё трэба адзначыць, што зацяжка організацыйнага афармленьня навукова-дасьледчай працы наогул па БНДІ адбівалася аж да часу рэорганізацыі і на разгляданым намі Аддзеле, канкрэтызуючыся ў такім фокусным яго пункце, як пэрспэкцыйныя і рабочыя пляны.

Аддзелу, у час рэорганізацыі, давялося мець справу аж з трэцім, за час яго існаваньня, пэрспэкцыйным плянам працы. Гэта адзначае, што амаль з кожным годам, пры складаньні гадавога рабочага пляну, нямінуча падымалася пытаньне аб пераробцы і пэрспэкцыйнага пляну.

Праўда, падобнае становішча ўласьціва ў той або іншай форме ўсім нашым плянам. Соцыялістычнае будаўніцтва ва ўсіх галінах нашае гаспадаркі ідзе такімі моцнымі крокамі ўперад, што пляны адстаюць, патрабуюць час-ад-часу папраўак і прыстасаваньня. Гэта зусім натуральна.

Але ўсё-ж гэта натуральна і прыймальна тады, калі нашы пляны сапраўды выпраўляюцца і прыстасоўваюцца да жыцьця. У выпадку-ж, калі мы гэтага выпраўленьня фактычна ня маем,—калі ўсё прыстасаваньне плянаў да запатрабаваньняў жыцьця абмяжоўваецца тым, што ў падназьве замест: «На 1926—1930 гг.» ставіцца: «На 1928-29, 1932-33 гг.», то гэта ўжо проста недарэчнасьць, якая мяжуе з шкоднасьцю. А такое фактычна становішча мы мелі з пэрспэкцыйнымі плянамі Аддз. С.-г. Экономіі і Аграрнай Політыкі.

Па зьместу працы як пэрспэкцыйныя, так і гадавыя пляны работ б. Аддзелу С.-г. Экономіі і Аграрнае Політыкі, ня кажучы ўжо аб іх поўнай непрыстасаванасьці да абслугоўваньня процэсаў соцыялістычнай рэконструкцыі ў сельскай гаспадарцы БССР, ня мелі наогул яскрава вызначаных установак, не давалі выразнага месца Аддзелу ў сыстэме НДІ, адгутэль-жа і ва ўсёй сыстэме навукова-дасьледчае працы. Так, у справаздачы БНДІ за 1927 г.—«Першы год працы»[1])— наступным чынам вызначаюцца задачы Аддзелу: «Аддзел Сельска-гаспадарчай Экономіі і Аграрнае Політыкі мае перад сабою нялёгкую задачу вывучыць і высьветліць экономічныя, соцыяльныя, гістарычныя і політычныя ўмовы, у якіх жыла даўней і цяпер сельская гаспадарка Беларусі і яе паасобныя галіны, вывучыць структурныя і організацыйныя формы гаспадаркі, якія складаюцца—ці то ў парадку стыхійнага разьвіцьця, ці плянавага ўплыву Дзяржавы, высьветліць экономічную рацыянальнасьць гэтых форм і галін, а нават і паасобных спосабаў ды мерапрыемстваў, адным словам, даць адказ на шэраг пытаньняў, без высьненьня якіх немагчыма сьвядомае плянавае кіраваньне паасобнай гаспадаркай і яшчэ больш немагчымы мэтазгодны ўплыў на масавую гаспадарку».

У гэтым вызначэньні, як бачыце, ёсьць усё, што толькі пажадана, аж да «плянавага кіраваньня паасобнай гаспадаркай», няма тут толькі нічога конкрэтнага, выразнага, што-б давала працы Аддзелу прынцыповую базу.

---

[1]) Аўтарам гэтае справаздачы зьяўляецца А. Смоліч.

Важнейшай працай Аддзелу, на працягу ўсяго часу яго існаваньня, лічылася «ўстанаўленьне ў сялянскіх гаспадарках розных раёнаў пастаянных рахунковых запісаў» («Першы год працы»), «працы па сыстэматычнай закладцы і вядзеньні рахунковых запісаў ды іх дэталёвай апрацоўцы Аддзел надае выключна важнае значэньне» («Другі год працы» [1]) і г. д. Нарэшце, лічылася, што «завядзеньне рахунковых запісаў у сялянскіх гаспадарках мае не малое значэньне ў справе рэорганізацыі іх у бок большай рацыянальнасьці і зыскоўнасьці» («Першы год працы»).

Але гэтага яшчэ мала. «Аддзел лічыць неабходным,—пішацца ў пэрспэкцыйным пляне працы,—уключыць у плян і распрацоўку проблем, якія маюць чыста тэорытычнае значэньне (?), што зьвяжа навуковую працу Аддзелу з разьвіцьцём сусьветнае экономічнае думкі» (!).

Мала гэтага, Галоўнавука, пры разглядзе плянаў працы навукова-дасьледчых устаноў, у агульнай зводцы—«Навукова-дасьледчая праца па сельскай гаспадарцы»—лічыць, што «плян працы (гэтага Аддзелу на пяцігодку) распрацаваны дэтальна і правільна» і з асаблівым задавальненьнем адзначае, што «Аддзел лічыць неабходным уключыць у плян і распрацоўку проблем, якія маюць чыста тэорытычнае значэньне, што зьвяжа навуковую працу Аддзелу з разьвіцьцём сусьветнай экономічнай думкі».

Гэтыя вытрымкі даюць настолькі яскравае ўяўленьне аб выточных прынцыпах пабудовы працы б. Аддзелу, што ім ня толькі непатрэбны комэнтарыі, але яны самі тлумачаць нявыразныя агульныя формулёўкі аб «нялёгкіх задачах» Аддзелу.

Такім чынам, калі адкінуць неатрымаўшыя ніякай конкрэтызацыі «соцыялістычныя» фразы, то выразна выяўляецца ўстаноўка ўсіх плянаў працы Аддзелу на абслугоўваньне індывідуальных сялянскіх гаспадарак з наданьнем іх разьвіцьцю капіталістычнае пэрспэктывы.

Гэтыя ўстаноўкі цалкам пераносіліся на працу Аддзелу на вынікі яго дасьледваньняў. Праца і яе вынікі абумоўліваліся яшчэ і структураю Аддзелу, наяўнымі працаўнікамі і мэтодам, якім гэтая праца ажыцьцяўлялася. У організацыйнай структуры Аддзел станавіў сабою бясформенную, бюрократычную адзінку. У ім проектавалася

---

[1]) Аўтарам справаздачы Аддзелу, якая зьмешчана ў выданьні „Другі год працы“, зьяўляецца Б. С. Бойка.

аж 12 габінэтаў! Ня кажучы ўжо аб тым, што такая структура ні ў якім разе ня вымагалася запатрабаваньнямі працы, што яна ўносіла ў працу толькі бюрократычную цеганіну, нерэальнасьць і нерацыянальнасьць ажыцьцяўленьня такой структуры працы як з боку сродкаў, так і сіл—была відавочна.

Фактычнае падставы такая організацыйная сыстэма ня мела і мець не магла. Але ўсё-ж тая структура, якая фактычна існавала ў складзе трох габінэтаў ( 1) Аграрнае політыкі і соцыялістычнага земляробства, 2) С.-г. экономії і організацыі, 3) с.-г. географії, раёнаваньня і статыстыкі), самастойнага бюро рахунковых запісаў і станцыі НАП,—зьяўлялася няжыцьцёвай.

Гэтая організацыйная сыстэма разрозьнівала, індывідуалізавала працу Аддзелу паміж паасобнымі габінэтамі і працаўнікамі і ня была зьвязана ні агульным, ні адміністрацыйным, ні ідэолёгічным кіраўніцтвам. Праз гэта, нават і тыя нязначныя сілы, якія былі пры Аддзеле, не маглі быць належным чынам выкарыстаны.

І калі ўвесь Аддзел грунтаваўся ў дасьледчай працы на выпадковых проблемах па заказу розных устаноў, дык паасобныя працаўнікі выконвалі даручаную ім працу выключна індывідуальна, ізолявана ад другіх і таму — саматужна.

Крайняя індывідуалізацыя зьяўлялася характарнай рысай усёй працы Аддзелу. Гэтая індывідуалізацыя, разам з амаль поўнай адсутнасьцю марксыцка вытрыманых працаўнікоў, з наяўнасьцю выхаванцаў буржуазнае і нэо-народніцкае школы, з адсутнасьцю належнай організацыйнай сыстэмы, а таксама з адсутнасьцю ідэолёгічнай праверкі і кіраўніцтва,—склалі найлепшыя ўмовы для росквіту саматужніцтва, бескантрольнае працы кожнага па-свойму, для зьяўленьня цэлага раду прац,—большай часткі ўсіх прац Аддзелу,—буржуазнага, дробна-буржуазнага і эклектычнага характару, об'ектыўна або суб'ектыўна шкодных па сваіх выніках для соцыялістычнага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы. (Працы па экономіцы землеўпарадкаваньня—Ліадта, Кісьлякова, Макарава; умовы разьвіцьця рынкавай сьвінагадоўлі на Беларусі—Ждановіч; нарыс па грамадзкай агрономії Беларусі—Лайкоў ды інш.).

Гэтыя працы, замест навуковага асьвятленьня шляхоў колгаснага і саўгаснага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы і перавага гэтага будаўніцтва перад капіталістычным разьвіцьцём вёскі, даказвалі якраз адваротнае: перавагі хутарскога, пасялковага і дробна-пасялковага

будаўніцтва. Атрымлівалася такая недарэчнасьць таму, што аўтары не аказаліся на належнай вышыні для тэорытычнага вырашэньня проблем сучаснага будаўніцтва, яны ня здолелі перамагчы навуковаю об'ектыўнасьцю свае дробна-буржуазнае, буржуазнае і эклектычнае прыроды.

Больш падрабязны разгляд гэтых прац мы даем у далейшым, а цяпер трэба падкрэсьліць тое, што, нажаль, самі працаўнікі Аддзелу абыходзяць гэтыя, відочна шкодныя працы, маўчком, а ў свой час нават іх узаемна расхвальвалі.

Яшчэ аднэй характэрнейшай рысай працы Аддзелу, на якой трэба спыніцца, было страшэннае зацягваньне ў выкананьні працы,—зацягваньне аж да таго, што вынікі звычайна рабіліся непатрэбнымі для практыкі (рахунковыя запісы ў сялянскіх гаспадарках, эфэктыўнасьць капітала-ўкладаньняў і г. д.), уся праца абярталася ў нікому непатрэбнае паўтарэньне задоў, у звычайны хвасьцізм. Падобнае зацягваньне тэрміну выкананьня паасобных прац афіцыйна лічылася нормальным. У пэрспэкцыйным пляне былога Аддзелу так і гаворыцца: «кожная тэма для сваёй канчатковай апрацоўкі патрабуе ад аднаго да трох год».

Зацягваньне выкананьня кожнай з тэм на тры гады, падвоенае адсталасьцю ад жыцьця самых тэм, не магло нарадзіць нічога лепшага і іншага, як недапушчальны хвасьцізм. Праўда, навукова-дасьледчай працы апошняга часу наогул уласьціва адсталасьць ад практычнага жыцьця, ад яго запатрабаваньняў, што так выразна было падкрэсьлена тав. Сталіным у яго прамове на конфэрэнцыі Аграрнікаў-Марксыстых, дзе ён казаў: ...«калі мы маем падставу ганарыцца практычнымі посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва, то нельга тое-ж самае сказаць аб посьпехах нашай тэорытычнай работы ў галіне экономікі наогул, у галіне сельскай гаспадаркі асабліва. Больш таго, трэба прызнаць, што за нашымі практычнымі посьпехамі не пасьпявае тэорэтычная думка, што мы маем некаторы разрыў паміж практычнымі посьпехамі і разьвіцьцём тэорэтычнае думкі».

Калі ў гэтай адсталасьці ад запатрабаваньняў жыцьця навукова-дасьледчая справа ў галіне с.-г. экономіі на БССР ня мае нічога асаблівага і новага, дык яна мае свае асаблівасьці ў тым, што ў ёй недахоп адсталасьці падвойваўся яшчэ больш моцным недахопам—шкоднасьці па выніках.

Ня меў Аддзел належнай выразнасьці і ў справе падрыхтоўкі навуковай зьмены ў дасьледчых кадрах—асьпірантаў. Гэтая актуальнейшая справа, ня гледзячы на дэклярацыю аб тым, што «другім разьдзелам працы Аддзелу зьяўлялася падрыхтоўка ў выглядзе асьпірантуры высокакваліфікаваных навуковых працаўнікоў» («Другі год працы»), ня мела організаванасьці ні на НДІ наогул, ні па Аддзелу; ня было нават яскравага ўяўленьня аб організацыі гэтае справы і пытаньне аб гэтым не падымалася з боку Аддзелу. Праўда, недахопы па падрыхтоўцы кадраў уласьцівы ня толькі НДІ, ці яго Аддзелам, а ўсім навукова-дасьледчым і навучальным установам БССР. І асабліва балюча адчуваецца організаванасьць справы падрыхтоўкі кадраў якраз на ідэолёгічных вышынях клясавага змаганьня—на аграрным фронце, г. зн. на кадрах навучальных і навукова-дасьледчых. У гэтай галіне, у момант бурнага соцыялістычнага будаўніцтва, калі роля навукі падымаецца надзвычайна высока і неабходнасьць у навукова-дасьледчай працы адчуваецца на кожным кроку, мы амаль на кожным-жа кроку спаткаемся з такімі зьявамі, што тая або іншая найадказная кіраўнічая роля выконваецца звычайным земскім агрономам, які па сваёй сутнасьці ня можа належным чынам успрымаць соцыялістычнае будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы. Мы маем прыклады, калі гэтымі гора-вучонымі старанна пішуцца таўстыя кнігі па «Организации крупного обобществленного сельского хозяйства» і калі ў гэтых кнігах не асьвятляецца абсолютна ні адно з пытаньняў організацыі колгасаў і саўгасаў, калі ўся прыстасаванасьць гэтых прац да колгасаў і саўгасаў абмяжоўваецца ўжываньнем гэтых тэрмінаў замест хутароў, капіталістычных фэрм і г. д. Па сутнасьці-ж уся пабудова гэтых прац прыстасавана якраз да гэтых фэрм і кулацкіх хутароў—аж да ўжываньня ня толькі мэтоду, але і катэгорый адпаведных соцыяльнаму тыпу капіталістычных фэрм і кулацкіх хутароў,—буржуазнага мэтоду, капіталістычных катэгорый.

Наогул-жа праца б. Аддзелу С.-г. Экономії і Аграрнае Політыкі можа быць ахарактарызавана, як праца:

1. Прынцыповай устаноўкай якой была орыентацыя ўсіх плянаў на абслугоўваньне індывідуальных сялянскіх гаспадарак;

2. З адсутнасьцю выразнай організацыйнай структуры, якая-б надавала Аддзелу належнае месца ў сыстэме навукова-дасьледчай працы і спрыяла выразнасьці гэтай працы, і сталага навукова-адміні-

страцыйнага ды ідэолёгічнага кіраўніцтва, якое-б каардынавала ўсю працу, а таксама забясьпечвала добраякаснасьць яе вынікаў;

3. З крайняй індывідуалізацыяй усёй працы паміж працаўнікамі;

4. З наяўнасьцю сярод працаўнікоў выхаванцаў буржуазнай, дробна-буржуазнай школ і эклектыкаў пры амаль поўнай адсутнасьці марксыцка вытрыманых кадраў;

5. З недапушчальнай сыстэмай зацяжкі выкананьня прац на некалькі год, аж да поўнай страты іх практычнае актуальнасьці;

6. З нізкай і об'ектыўна або суб'ектыўна шкоднай якасьцю большасьці выпушчаных прац;

7. З адсутнасьцю сыстэмы і выразнасьці ў справе падрыхтоўкі асьпірантаў.

Вось характэрныя асаблівасьці працы б. Аддзелу С.-г. Экономії і Аграрнае Політыкі,—асаблівасьці, якія прымусілі катэгорычна паставіць пытаньне аб каранной рэорганізацыі ўсяе структуры і працы Аддзелу.

Рэорганізацыя Аддзелу С.-г. Экономії і Аграрнай Політыкі ў Аддзел Экономії і Організацыі Соцыялістычнай Сельскай Гаспадаркі конкрэтызуецца ў наступным:

Перш за ўсё карэнным чынам зьмяняецца орыентацыя ўсяе навукова-дасьледчае працы Аддзелу з абслугоўваньня капіталістычных форм разьвіцьця сельскае гаспадаркі, на абслугоўваньне запатрабаваньняў соцыялістычных форм сельскай гаспадаркі (саўгасы, колгасы) і агульнае рэконструкцыі ў гэтым кірунку. Гэтая пераорыентацыя працы Аддзелу адбываецца як праз зьмену ўсяе тэматыкі працы, так і праз зьмену мэтоду яе выкананьня.

Калі рабочыя пляны былога Аддзелу амаль зусім ня мелі ў сабе тэм з колгаснага і саўгаснага будаўніцтва, а грунтаваліся на такіх працах, як рахунковыя запісы ў сялянскіх гаспадарках, нормы зямлякарыстаньня і проблемы недрабненьня, географічнае разьмяшчэньне і дынаміка форм зямлякарыстаньня, вывучэньне дынамікі сельскае гаспадаркі этнографічнай Беларусі ад другое паловы XIX стагодзьдзя да Кастрычнікавай рэволюцыі,—то плян рэорганізаванага Аддзелу на 1929/30 г. пабудаваны ўжо на такіх працах, як складаньне тыповых організацыйных плянаў для колгасаў розных вытворчых тыпаў, цэлы комплекс тэм па дасьледаваньні колгасаў БССР, комплекс тэм па саўгасах БССР, па тэхнічных культурах і бульбе, па індустрыя-

лізацыі сельскай гаспадаркі БССР, па малочнай жывёле, сьвіньнях і г. д.

Некаторыя тэмы з мінулых гадоў, ня маючыя актуальнага практычнага значэньня, хоць і пастаўлены ў плян для таго, каб іх скончыць, аднесены на апошнюю чаргу, як па выданых на іх опэрацыйных сродках, так і сілах.

Індывідуалізацыя і адгэтуль саматужніцтва, уласьцівае працы б. Аддзелу, вынішчаецца рашучым курсам на колектывізацыю навуковых працаўнікоў Аддзелу навакол комплекснага дасьледваньня тых альбо іншых проблем і паасобных тэм з соцыялістычнага будаўніцтва сельскае гаспадаркі. Гэтая колектывізацыя ў працы ажыцьцяўляецца як праз організацыю рабочых груп, што працуюць на тым альбо іншым заданьні з боку Аддзелу, так і праз абгаварэньне на Пленумах і Нарадах Аддзелу мэтодолёгіі падрыхтоўкі дасьледваньня, правядзеньня апошняга, распрацоўкі матэрыялаў і абгаварэньне літаратурна-аформленых вынікаў.

Такім шляхам надаецца поўная мажлівасьць дапамогі паасобным таварышом у выпраўленьні іх памылак, мажлівасьць рашучага, жорсткага і сваячасовага змаганьня супроць усякае буржуазнае, дробна-буржуазнае ды інш. блытаніны, мажлівасьці колектыўнае творчасьці ў навукова-дасьледчай справе.

Пры такой організацыйнай пабудове самаго мэтоду навуковадасьледчае працы адпадае ўсякая неабходнасьць ня толькі шматлікіх, але і наогул габінэтаў. Уся кіраўнічая праца па Аддзелу можа концэнтравацца ў агульным Прэзыдыуме ў складзе: Загадчыка Аддзелу, яго Намесьніка і Навуковага Сакратара. Шмат вучоных спэцыялістых, асыстэнтаў, асьпірантаў і статыстыкаў Аддзелу ў дасьледчай працы аб'яднаецца ў рабочыя групы навакол распрацоўваных пытаньняў. Такава організацыя працы сучаснага Аддзелу.

Аддзелу падпарадкаваны такія самастойныя ўстановы, з спэцыяльнымі штатамі, плянамі і каштарысамі, як Станцыя НАП і Сэкцыя Зямляўпарадкаваньня.

Сэкцыя Зямляўпарадкаваньня організавана і далучана да аддзелу Экономії і Організацыі Соцыялістычнае Сельскае Гаспадаркі, выходзячы з паўстаўшых актуальных проблем зямляўпарадкаваньня колгасаў і саўгасаў, проблем ператтварэньня зямляўпарадкаваньня наогул у такія формы організацыі тэрыторыі, якія-б былі цалкам дапасаваны да сучасных тэмпаў і форм соцыялістычнай перабудовы вёскі. Над

гэтымі проблемамі і сконцэнтравана праца Сэкцыі Зямляўпарадкаваньня.

Станцыя Навуковай Організацыі Працы мае задачай—вывучэньне і рацыяналізацыю процэсаў працы ў сельскай гаспадарцы. Базай Станцыі зьяўляюцца дасьледчыя станцыі НДІ, а таксама тыповыя колгасы і саўгасы.

Гэтая станцыя, з-за адсутнасьці належных працаўнікоў, толькі яшчэ пачынае разгортвацца. Мала таго, падрыхтоўка навуковых працаўнікоў у галіне НАП пачалася толькі з гэтага году, калі быў пасланы адзін асьпірант для падрыхтоўкі на Кіеўскую Станцыю НАП. Падобнае да ганебнасьці запушчэньне працы ў галіне НАП у сельскай гаспадарцы не зьяўляецца выпадковасьцю, наадварот, тут зноў-ткі сказалася «далёкабачнасьць» кіраўніцтва былой Галоўнавукі. Так, у раней ужо памянёнай зводцы—«Навукова-дасьледчая праца па сельскай гаспадарцы»—дзе ўхваляецца «чыстая» навука і сувязь праз яе з «сусьветнай» навукай, існаваньне Станцыі НАП пры НДІ прызнаецца проста «немэтазгодным».

Праца Аддзелу Экономіі і Організацыі Соцыялістычнае Сельскае Гаспадаркі па вырашэньню тых або іншых проблем з колгаснага і саўгаснага будаўніцтва павінна грунтавацца на пэўных даных. Данымі гэтымі зьяўляюцца наяўныя ў БССР матэрыялы літаратурныя і сырыя, матэрыялы стацыянарных дасьледваньняў (рахункаводзтва і гадавыя справаздачы колгасаў і саўгасаў, хромомэтраж) і матэрыялы спэцыяльна організоўваных экспэдыцый.

За пасьлярэволюцыйныя часы па БССР назьбіралася шмат матэрыялаў па сельскай гаспадарцы, матэрыялы гэтыя параскіданы па розных установах і ня маюць належнага выкарыстаньня. Шмат што з гэтых матэрыялаў можа быць выкарыстана і яго трэба выкарыстаць. Таму, Аддзел ставіць сваёй задачай усё, што магчыма сабраць, узяць на ўлік, організаваць архіў і наладзіць мажлівасьць выкарыстаньня ўсіх гэтых матэрыялаў.

Калі сучасны размах і тэмп соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі вымагае неабходнасьці концэнтрацыі і павялічэньня ўвагі на навукова-дасьледчай працы і тым самым надае вялікае значэньне БНДІ імя Леніна, як асяродку і організатару гэтае навукова-дасьледчае працы, дык гэтым-жа самым вызначаецца ня менш вялікае

значэньне ў сыстэме самаго Інстытуту, Аддзелу Экономії і Організацыі Соцыялістычнае Сельскае Гаспадаркі.

Гэты Аддзел павінен зрабіцца такім органам Інстытуту, які, разам з непасрэдным абслугоўваньнем запатрабаваньняў з боку соцыялістычнай рэконструкцыі, павінен даваць кіраўніцтва ўсёй навукова-дасьледчай працы па шляху яе рацыянальнасьці. На падставе вывучэньня асаблівасьцяй запатрабаваньня соцыялістычнае рэконструкцыі ў раёнах дзейнасьці дасьледчых станцый, Аддзел павінен зрабіць ацэнку ўсіх праведзеных дасьледваньняў і плянаў дасьледчай працы як дасьледчых станцый, так і Аддзелаў НДІ з боку іх дапасаваньня да гэтых запатрабаваньняў.

Выкананьне апошніх задач Аддзел ажыцьцяўляе праз сувязь з Аддзеламі організацыі соцыялістычнае сельскае гаспадаркі ўсіх дасьледчых станцый. Гэтыя аддзелы, пры організацыі іх пры ўсіх дасьледчых Станцыях, павінны ўваходзіць у гэтыя Станцыі, як іх асноўная, кіруючая частка, адначасова яны зьвязваюцца і падпарадкуюцца Аддзелу Сельска-гаспадарчай Экономії і Організацыі Соцыялістычнай Сельскай Гаспадаркі НДІ ў навуковым кіраўніцтве (увязка і зацьвярджэньне плянаў, дача консультацый, нарады).

Адзначанымі момантамі даволі выразна і адпаведна вызначаецца месца Аддзелу ў навукова-дасьледчай справе на БССР. Тут нам хацелася-б яшчэ раз падкрэсьліць усю веліч значэньня навукова-дасьледчае працы, як падставы замацаваньня яе належнаю ўвагаю, сродкамі і сіламі.

Конфэрэнцыя Аграрнікаў-Марксыстых, надаючы гэтаму пытаньню вялікую ўвагу і бачыўшы практычныя перашкоды ў гэтай справе з боку надмернага практыцызму паасобных працаўнікоў, знайшла патрэбным напісаць у сваёй рэзолюцыі па дакладу т. Мілюціна спэцыяльны пункт, які кажа: «Соцыялістычная рэконструкцыя ўсяе народнае гаспадаркі і ў тым ліку сельскае гаспадаркі вымагае значнага пашырэньня і паглыбленьня навукова-дасьледчае працы, якая павінна абслугоўваць інтарэсы соцыялістычнай рэконструкцыі.

Проблема плянаваньня сельскае гаспадаркі, асабліва на базе суцэльнае колектывізацыі, перарастаньне больш простых відаў колгасаў у вышэйшыя формы, утварэньне буйнейшых грамаджаных гаспадарак на машына-трактарнай базе, організацыі саўтасаў-гігантаў ва ўсіх галоўнейшых галінах сельскае гаспадаркі, організатарская роля

пролетарыяту ў справе соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і проблемы клясавага змаганьня па-за колгасамі і элемэнты клясавага змаганьня ў колгасах, проблемы тэхнікі (асабліва электрыфікацыі), організацыі працы ў новых умовах соцыялістычнага будаўніцтва, узаемаадносін саветаў, колгасаў і спажывецкай сельска-гаспадарчай коопэрацыі ва ўмовах суцэльнае колектывізацыі, усе гэтыя проблемы падлягаюць уважлівай навукова-дасьледчай прапрацоўцы і тэорытычнаму аналізу.

Разам з гэтым Конфэрэнцыя констатуе, што ў радзе кіраўнічых працаўнікоў як у цэнтры, так і на мясцох, існуе недаацэнка неабходнасьці тэорытычнае працы і экономічных дысцыплін у прыватнасьці. Конфэрэнцыя лічыць патрэбным пакласьці канец гэтай недаацэнцы тэорытычнай працы і асабліва ў галіне экономічных дысцыплін, выкарыстоўваючы ў практычнай працы ў поўнай меры ўсе дасягненьні марксыцка-ленінскай аграрнай навуковай думкі».

Практычная рэалізацыя гэтае дырэктывы мае надзвычайна вялікае значэньне і ў нас на БССР, дзе навукова-дасьледчая справа толькі пачынае становіцца на ногі і патрабуе ўсямернага падтрыманьня.

Зроблены цяпер рашучы пералом і ў справе падрыхтоўкі кадраў у галіне дасьледчае справы па с.-г. экономіі на БССР. Аддзелу давялося ачысьціцца ад людзей, якія станавілі сабою або баласт у навукова-дасьледчай справе, або чужы, варожы соцыялістычнаму будаўніцтву лягер тэорэтыкаў буржуазіі. Навуковыя працаўнікі, што засталіся, былі адпаведна спэцыялізаваны, а на спэцыяльнасьці, якія вымагаюцца жыцьцём і замешчаны, ужыты належныя захады па падрыхтоўцы людзей праз адпаведную асьпірантуру. Організаваны сэмінары, складзены пляны і програмы падрыхтоўкі, вызначаны кіраўнікі і неабходныя камандыроўкі.

Вялізным недахопам у гэтай справе зьяўляецца тое, што адчуваецца вялікі недахоп належным чынам падрыхтаваных людзей, якія-б маглі быць выкарыстаны на замяшчэньне асьпіранцкіх пасад. Гэтая недарэчнасьць павінна вырашацца ў нашых ВНУ праз больш шырокае высоўваньне здольных клясава адпавядаючых для навуковае працы студэнтаў.

Такавы ў агульных рысах організацыйныя, тэматычныя і мэтодолёгічныя ўстаноўкі сучаснага стану плянавае навукова-дасьледчае працы ў галіне сельска-гаспадарчае экономіі і організацыі соцыялістычнае сельскае гаспадаркі на БССР.

Плянаваньне ды ідэолёгічнае кіраўніцтва ўсёй гэтай працы сконцэнтравана ў Аддзеле Экономіі і Організацыі Соцыялістычнае Сельскае Гаспадаркі БНДІ імя Леніна. Да непасрэднага выкананьня гэтае працы прыцягваецца рад навуковых працаўнікоў з па-за сьцен БНДІ, асабліва з БАН і БД с.-г. Акадэміі. Для абмеркаваньня плянаў і мэтодолёгічных пытаньняў прыцягваецца рад ведамсьцьвеных працаўнікоў як НКЗ, Колгассаюз, Дзяржплян, так і інш. установ.

---

## КАНДРАЦЬЦЕЎШЧЫНА ПАД ЛЁЗУНГАМ ПАБУДОВЫ „МЯСЦОВАЙ БЕЛАРУСКАЙ С.-Г. ЭКОНОМІІ“.

Варожыя пролетарыяту тэорытычныя пабудовы ў галіне аграрнага пытаньня, як буржуазная концэпцыя—кандрацьцеўшчына і дробна-буржуазная—нэо-народнікі, разам з рознымі адхіленьнямі ад ортадоксальнага марксызму ў выглядзе опозыцый унутры нашай Партыі, па ўсім фронце тэорэтычнае бойкі пачалі здаваць свае позыцыі.

Посьпехі, якія мы маем у галіне соцыялістычнае будаўніцтва народнае гаспадаркі наогул і сельскае гаспадаркі ў прыватнасьці, масавы рух бядняцка-серадняцкага сялянства да пабудовы соцыялістычных форм у сельскай гаспадарцы ў выглядзе колгасаў, дасягненьні па выкананьню пяцігадовага пляну разьвіцьця, разам з тым тэорытычным змаганьнем, якое праводзілася нашай Партыяй і пад яе кіраўніцтвам супроць рэакцыйных буржуазных і дробна-буржуазных тэорый па аграрным пытаньні, зьявіліся тымі фактарамі, якія прымусілі шмат каго з носьбітаў гэтых тэорый прызнаць ня толькі памылковымі, але і рэакцыйнымі свае погляды.

Калі такі слуп буржуазнай школы аграрнікаў, як проф. Літошанка ў свой час заяўляў, што «наш аграрны лад будзе бясконца далёкі ад усякага роду соцыялізацыі», то гэты-ж профэсар Літошанка зараз заяўляе, што цяпер для яго «ясна, што мэтоды пабудовы ў нашай краіне адшуканы генэральнай лініяй Партыі. Больш таго,—ён лічыць, што пастаўленыя мэты ў значнай ступені ўжо ажыцьцёўлены і што тыя адрозьненьні, якія праводзяць рэзкую мяжу паміж грамадзка-політычным і экономічным ладам СССР і тымі-ж бакамі жыцьця буржуазных дзяржаў зьяўляюцца рысамі сапраўднага соцыялізму. Для тэорэтычнага аналізу дзейнасьці і для практычнай працы, у ёй правільна выходзіць ужо з перадпасылак соцыялістычнае гаспадаркі, уносячы патрэбныя папраўкі на выяўленьні рэштак неаграма-

джанага сэктару народнае гаспадаркі» (Заява Л. Н. Літошанка, зробленая ім у 1929 г.).

Трэба адзначыць, што падобнага роду заявы з боку лідэраў буржуазнага лягеру экономістых-аграрнікаў не зьяўляюцца адзінкамі. Гэтыя заявы сьведчаць пра крах, пра беспадстаўнасьць гэтых тэорый. Інакш і быць ня можа, бо гэтыя тэорыі аб капіталістычнай рэстаўрацыі СССР пабудаваны на пяску, яны пабудаваны хутчэй на ўласным жаданьні іх аўтараў, чым на об'ектыўных абставінах жыцьця.

Або такі лідар дробна-буржуазнага лягеру экономістых-аграрнікаў, як проф. Чаянаў, які ў свой час завяраў, што «вялізная галіна народнае гаспадаркі ў выглядзе сельскай гаспадаркі пабудавана ў большай сваёй частцы не на капіталістычных пачатках, а на пачатках працоўна-сямейнае гаспадаркі, якой уласьцівы іншыя мотывы гаспадарчай дзейнасьці і нават іншае разуменьне выгаднасьці» («Основные идеи и формы организации крестьянской кооперации»), той самы Чаянаў, які завяраў, што ў выніку бальшавіцкае політыкі «мы будзем мець урэшце ўсяго стары зямельны рэжым у яго руінах», той самы Чаянаў, які замест бальшавіцкага шляху разьвіцьця сельскай гаспадаркі раіў шлях пабудовы сялянскай коопэрацыі і бачыў у ёй «асобную народна-гаспадарчую сыстэму, новую форму (якая адрозьніваецца і ад капіталізму, і ад соцыялізму—*С. М.)* народна-гаспадарчага разьвіцьця, больш высокую, чым папярэдняя форма распыленай сямейнай гаспадаркі»,—гэты самы Чаянаў пад уплывам тых-жа прычын, як і Літошанка, цяпер заяўляе, што яго «гістарычныя прагнозы аказаліся памылковымі, што пры тым тэхнічным перавароце, які перажывае сельская гаспадарка, зьяўлялася-б грубай і рэакцыйнай памылкай бараніць як тэорыю клясавай коопэрацыі, таксама і абараняць неабходнасьць існаваньня ў новых формах земляробства індывідуальнага сэктару сельскай гаспадаркі».

Гэтыя прызнаньні лідара нэо-народнікаў,—зьяўляючыся, праўда, ня поўным і не безагаворачным прызнаньнем памылак гэтай школы,—прызнаньнем, якое лічыць сваю концэпцыю рэакцыйнай толькі для сучаснасьці, для ўмоў таго «тэхнічнага перавароту, які перажывае сельская гаспадарка», прызнаньнем, якое замаўчвае рэакцыйную сутнасьць гэтага навучаньня ў старыя часы, дзякуючы таму, што яно (навучаньне) замазвала сапраўдныя шляхі разьвіцьця вёскі, а тым самым замазвала клясавае змаганьне ў ёй і праз гэта спрыяла эксплёатацыі вясковае бедната капіталістычнымі павукамі вёскі,—гэтае пры-

знаньне ўсё-ж яскрава сьведчыць пра крах нэо-народніцкіх тэорый і настрояў перад посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Прызнаньні аб беспадстаўнасьці сваіх тэорый як з боку найбольш выдатных прадстаўнікоў з лягеру буржуазных экономістых-аграрнікаў, так і з боку найбольш выдатных дробна-буржуазных вучоных, разам-з поўным правалам скажэньняў ортодоксальнага марксызму ў аграрным пытаньні з боку «левай» і правай опозыцыі ўнутры нашае Партыі, не дае падставы спыняць змаганьне супроць гэтых варожых пролетарыяту тэорый і розных скажэньняў марксызму. Гэтае змаганьне павінна весьціся і надалей. Гэта патрэбна таму, што, па-першае, наяўныя адмаўленьні няпоўны і ня могуць нас задаволіць, па-другое, што гэтыя адмаўленьні не ахапляюць усіх прадстаўнікоў варожых і шкодных школ і настрояў, а таксама яны ня зьнішчаюць спадчыны ранейшага панаваньня гэтых буржуазных і дробна-буржуазных тэорый на фронце навучальным і навукова-дасьледчым; па-трэцяе, таму, што пакуль-што мы яшчэ не пазбавіліся прыватнае ўласнасьці на сродкі вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы, а ў такім выглядзе, як вядома, вёска шточас, штомінутна нараджае капіталізм у выглядзе кулацтва, тэорытычным адбіткам практычных імкненьняў якога і зьяўляюцца гэтыя рэакцыйныя тэорыі буржуазных і дробна-буржуазных экономістых-аграрнікаў. І, нарэшце, па-чацьвертае, неабходнасьць клясавага змаганьня на ідэолёгічным аграрным фронце набывае вялікае значэньне цяпер з пункту погляду разьвіцьця як сусьветнага рэволюцыйнага руху ў капіталістычных краінах, дзе патрэбна дапамога ў асьвятленьні сапраўдных шляхоў разьвіцьця вёскі для правільнае орыентацыі політыкі братэрскіх компартый, так і з пункту погляду разьвіцьця практычнага будаўніцтва соцыялізму ў СССР, для тэорытычнага асьвятленьня гэтага будаўніцтва, для пэрспэктывы ў ім, для ўпэўненасьці ў посьпеху справы гэтага будаўніцтва.

Асабліва рэльефна выяўляецца патрэбнасьць разьвіцьця змаганьня на ідэолёгічным аграрным фронце ў нашых умовах БССР. Тут, пры наяўнасьці значнага ліку вучняў кандрацьцеўшчыны і нэо-народнікаў, пры даволі ўжо шырокім разгортваньні справы крытыкі практычнае і тэорытычнае працы гэтых рэакцыйных парасткаў, мы ня маем, як гэта ня дзіўна, ніводнага больш-менш здавальняючага офіцыйнага прызнаньня сваіх памылак з боку беларускіх кандрацьцеўцаў і нэо-народнікаў.

Гэтая асаблівасьць рэакцыйных беларускіх экономістых-аграрнікаў буржуазнага і нэо-народніцкага лягеру прымушае яшчэ раз да патрэбнасьці завастрэньня змаганьня з імі, да выкрыцьця рэакцыйнай сутнасьці іх дзейнасьці і пісаніны. Зьвярнуцца яшчэ раз да беларускае кандрацьцеўшчыны і нэо-народнікаў прымушае яшчэ і патрэбнасьць разабраць іх асаблівасьці ў параўнаньні з іх настаўнікамі расійскімі лідэрамі кандрацьцеўшчыны і нэо-народнікаў.

Коратка кажучы, асаблівасьці беларускіх кандрацьцеўцаў і нэо-народнікаў заключаюцца ў тым, што яны афарбоўваюцца ў нацыянал-дэмократычны колер і што гэты політычны мотыў зьяўляецца фактарам шчыльнае сувязі паміж імі. Нацыянальны мотыў, як фактар шчыльнае сувязі паміж беларускімі кандрацьцеўцамі і нэо-народнікамі, зьяўляецца, бязумоўна, толькі дадатковым фактарам, які ўзмацняе сувязь паміж гэтымі лягерамі, бо, як зусім пэўна зазначае тав. А. Леоньцеў, «паміж гэтымі дзьвюма групамі буржуазных і дробна-буржуазных ідэолёгаў у галіне аграрнага пытаньня (маецца на ўвазе расійская кандрацьцеўшчына і нэо-народнікі—*С. М.)* розьніца не такая вялікая, як гэта можа здавацца з першага погляду. Цьвярозыя вястуны капіталістычнага разьвіцьця вёскі і спадчыньнікі дробна-буржуазных утопічных ілюзій народніцтва ў практычных адносінах бліжэй адзін да аднаго, як гэта мажліва было-б чакаць. Разглядаючы сялянства, як адну суцэльную масу «працоўных гаспадароў», змагаючыся супроць марксыцка-ленінскага аналізу клясавых дачыненьняў у вёсцы, усяляк замазваючы яе распластаваньне, нэо-народнікі надзвычай старанна льлюць ваду на млын адкрытых абаронцаў кулацкіх інтарэсаў. Нарэшце, важнейшай глебай для практычнага аб'яднаньня гэтых абедзьвюх груп зьяўляецца варожасьць і недавер'е да клясавае экономічнае політыкі пролетарскае дыктатуры, варожыя дачыненьні да справы социялістычнае пераробкі сялянскае гаспадаркі па шляхох яе коопэраваньня і колектывізацыі пры падтрыманьні, дапамозе і абароне савецкае улады» (Социалистическое строительство и его критики, изд. 2, ст. 155). Гэтая сувязь настолькі шчыльная, што надае поўную мажлівасьць характарыстыкі іх як часткі адзінага беларускага нацыянал-дэмократызму, нацыянал-дэмократызму ў аграрным пытаньні.

Праўда, беларускі нацыянал-дэмократызм у аграрным пытаньні не пасьпеў яшчэ скласьці зграбнае тэорыі сваіх поглядаў і таму нам даводзіцца мець справу толькі з элемэнтамі гэтае тэорыі, з першымі,

часамі вельмі прымітыўнымі крокамі ў гэтым кірунку, але гэтым не паслабляецца рэакцыйнае значэньне работы беларускага нацыянал-дэмократызму ў аграрным пытаньні. Тым больш, што практычная дзейнасьць гэтых людзей мае значна большыя посьпехі ў справе сыстэматычнага ажыцьцяўленьня імкненьняў беларускага кулацтва. Але пачнем па парадку.

Тэорытычнае афармленьне імкненьняў беларускга кулацтва пачалося параўнаўча ня так даўно. З першымі крокамі ў гэтым кірунку мы спаткаемся ў працах сельска-гаспадарчае сэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры ў 1926 годзе. У першым «сшытку» гэтых прац, які быў выданы НКЗ БССР пад назваю—«Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі на падставе даных аб чыгуначнай і вадзяной перавозках»,—праца, аўтарамі якой зьяўляюцца «Сяргей Ждановіч і Яўдакім Ярашчук, пад рэдакцыяй і з прадмовай загадчыка аддзелу сельска-гаспадарчай экономіі НКЗ Я. Кісьлякова», мы і знаходзім першыя крокі нацыянал-дэмократызму ў аграрным пытаньні на БССР.

Для об'ектыўнасьці ў разглядзе памянёнай працы, трэба тут-жа правесьці размежаваньне паміж яе аўтарамі. Праца гэтая, будучы зроблена і надрукавана пад агульным ідэёвым кіраўніцтвам Я. Кісьлякова, па яго-ж адзнацы, выконвалася ў асноўным С. А. Ждановічам, якому належала «непасрэднае кіраваньне ўсёй працай» і якім напісаны ўвесь артыкул: «Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі па даных чыгуначнай перавозкі».

Праца—«Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі на падставе даных аб чыгуначнай і вадзянай перавозках», паводле думкі яе рэдактара і прадмоўцы Я. Кісьлякова, павінна «хоць часткаю запоўніць прабел у нашых небагатых ведах аб сельскай гаспадарцы Беларусі і даць магчымасьць больш грунтоўнага да яе падыходу як з боку спэцыялістага практыка, так і дасьледчыка-вучонага». Гэта вельмі важна і патрэбна паводле Я. Кісьлякова, бо да гэтай працы, як ён кажа: «мы, амаль што ва ўсіх працах па сельскай гаспадарцы Беларусі, пакуль-што маем ня *зусім грунтоўныя погляды на істоту адбываўшыхся і адбываючыхся зьмен* у гэтай гаспадарцы, а ў сувязі з гэтым ня маем *выразна і навукова высьвятленага шляху яе далейшага разьвіцьця.* Урэшце, найважнейшыя пытаньні зямельнай і сельска-гаспадарчай політыкі Беларусі больш *грунтуюцца на інтуіцыі*, чым на адпаведных,

лічбамі высьветленых і падкрэсьленых, ведах». (Падкрэсьлена мною— *С. М.*). І далей Я. Кісьлякоў працягвае: «...вёска патрабуе конкрэтных адказаў на конкрэтныя практычныя пытаньні, высунутыя пачаўшымся процэсам перабудовы яе сельскае гаспадаркі. Зразумела, што гэтыя адказы магчыма даць без памылкі толькі тады, калі мы будзем мець добра апрацованую *тэорыю разьвіцьця нашае сельскае гаспадаркі*, калі мы пабудуем *мясцовую беларускую сельска-гаспадарчую эконо-мію*». «...У поўнай згодзе з такім поглядам аддзел сельска-гаспадарчай экономікі НКЗ з пачатку сваёй сталай працы (вясна 1923 году) адным з галоўнейшых сваіх заданьняў паставіў зьбіраньне і апрацоўку старых матэрыялаў, высьвятляючых той ці іншы бок нашай сельскай гаспадаркі» (падкрэсьлена аўтарам).

Выточныя пазыцыі, на якіх пачалася будавацца дасьледчая справа па сельска-гаспадарчай экономіі на БССР, зразумелы з паданых вытрымак бяз усякіх комэнтараў. Адсутнасьць матэрыялаў аб становішчы сельскай гаспадаркі БССР, адсутнасьць грунтоўных навуковых поглядаў на зьмены, што адбываюцца, а адгэтуль і адсутнасьць пэрспэктывы ў разьвіцьці і, нарэшце, запатрабаваньні самой вёскі—усё гэта, як бачыце, прымусіла Я. Кісьлякова заняцца ў тэорыі і на практыцы ўгрунтаваньнем нашае «зямельнае і сельска-гаспадарчае політыкі» і заняцца гэтай справай пад лёзунгам пабудовы «мясцовай беларускай сельска-гаспадарчай экономіі».

Што гэты лёзунг не зьяўляецца проста няпісьменнай агаворкай, сьведчыць уся далейшая тэорытычная і практычная праца і Я. Кісьлякова, і наогул беларускае кандрацьцеўшчыны, або беларускага нацыянал-дэмократызму ў аграрным пытаньні. Ды і што-ж па сутнасьці становіць сабою гэты лёзунг, як ня дохлую тэорыю самабытнасьці, у якой адлюстроўваецца беларускі нацыянал-дэмократызм?

Сапраўды, як вядома, сельска-гаспадарчая экономія ў шырокім сэнсе гэтага разуменьня зьяўляецца навукай, якая вывучае грамадзкія дачыненьні людзей у сельска-гаспадарчай вытворчасьці і калі мы пачынаем будаваць мясцовую беларускую сельска-гаспадарчую экономію, то гэтым самым мы прызнаем асаблівасьці дачыненьняў людзей у сельска-гаспадарчай вытворчасьці на БССР. На справе так і было. Беларускімі нацыянал-дэмократамі гэтае прызнаньне конкрэтызавалася ў той концэпцыі, што ў Беларусі ня было і няма беларускіх паноў, кулакоў ды

інш., што ў Беларусі ёсьць толькі беларускі народ і г. д. Гэта ёсьць ні больш, ні менш, як працяг старога нашанїўскага лёзунгу аб тым, што «ня гледзячы на ўсялякія падзелы, споркі і сваркі, усе беларусы—гэта родныя браты, адна сям'я—што 9-мільённая грамада раскінутых па вялізным абшары беларусаў—гэта адзін суцэльны народ» (Наша Ніва, № 1, за 1912 год).

Практычна гэта азначала замазваньне клясавага змаганьня, падмена яго на шовіністычную ідылію і дапамога, часамі вельмі сьвядомая і актыўная, капіталістычнаму разьвіцьцю ў сельскай гаспадарцы БССР, дапамога эксплёатацыі батракоў і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства капіталістычнымі павукамі вёскі. У гэтым рэакцыйная сутнасьць праграмы нашых кандрацьцеўцаў і нэо-народнікаў.

Тут, як нельга да месца прывесьці наступны сказ Маркса з прадмовы да «Капіталу»: «Прадметам майго досьледу ў гэтай рабоце зьяўляецца капіталістычны спосаб вытворчасьці і дапасаваныя да яго дачыненьні вытворчасьці і памену. Клясычнай дзяржавай капіталізму зьяўляецца дагэтуль Англія. У гэтым прычына, чаму яна служыць галоўнай ілюстрацыяй да маіх тэорытычных вынікаў. Але калі нямецкі чытач пачне фарысейскі паціскаць плячмі з прычыны тых умоў, у якія пастаўлены ангельскія прамысловыя і земляробскія рабочыя, або надумаецца оптымістычна супакойваць сябе тым, што ў Германії справа стаіць далёка ня так кепска, то я павінен буду заўважыць яму: De te fabula narratur (аб табе гэта гісторыя расказваецца)».

Гэты вынятак, як нельга яскрава вызначае буржуазнасьць, а адгэтуль і рэакцыйнасьць лёзунгу беларускае кандрацьцеўшчыны аб пабудове «мясцовай беларускай с.-г. экономії».

Але справа тут ня так і ня столькі ў гэтым нацыянал-дэмократычным лёзунгу, як і колькі ў далейшым разгортваньні тэорытычнае і практычнае работы беларускае кандрацьцеўшчыны, у далейшым (пасьля гэтага лёзунгу) лёсе іх разьвіцьця і адміраньня. Але, перш чым перайсьці да разгляду зазначаных момантаў, трэба спыніцца і на самой працы, да якой прызначана прадмова Я. Кісьлякова, працы, на якой чамусьці сельска-гаспадарчая сэкцыя Інбелкульту палічыла неабходным паставіць свой штамп.

«Характарыстыка сельскай гаспадаркі...» па свайму мэтоду і выніках цалкам адпавядае ідэёвым устаноўкам, якія даны ў прадмове Я. Кісьлякова. І хаця прадмоўцам прабачылася, што гэтая праца «ў некаторых мясцох выклікае спрэчкі, асабліва ў частцы ацэнкі і тлума-

чаньня аўгарам тых ці іншых момантаў эволюцыі», аднак, на вялікі жаль, дагэтуль ні сама праца, ні рэакцыйная яе прадмова не падлягалі ніякай крытыцы, ня кажучы ўжо аб марксыцкай. У разглядзе гэтай працы мы спынімся на некалькі асноўных пытаньнях.

Перш за ўсё трэба спыніцца над пытаньнем адносін аўтара разгладанай працы С. Ждановіча да выкарыставаных ім матэрыялаў у выглядзе чыгуначных і водчых перавозак.

Сваю зацікаўленасьць матэрыяламі чыгуначных перавозак С. Ждановіч тлумачыць, як высокай дакладнасьцю гэтых даных, так і тым, «што яны характарызуюць найбольш важны бок гаспадаркі—яе сувязь з рынкам».

«Чыгуначныя перавозкі,—кажа аўтар,—як вынік гаспадаркі, зьяўляюцца фокуснай адзнакай гаспадаркі таго ці іншага раёну» (ст. 6). І далей, «зьмены ў самой гаспадарцы лепш за ўсё адбіваюцца ў зьменах яе рыначных лішкаў, пад якімі будзе ўмоўна разумецца сума пастанцыённых чыстых лішкаў» (ст. 10). Зусім зразумела, што дакладнасьць даных чыгуначных перавозак зьяўляецца даволі высокай. Гэта—так, і тут Ждановіч мае рацыю. Але далейшыя разважаньні, якія ён разьвівае на падставе гэтага, проста неўгрунтаваны.

Перш за ўсё, чыгуначныя перавозкі ня могуць зьявіцца «фокуснай адзнакай таго ці іншага раёну» і ня могуць адбіваць яго зьмены ў «рыначных лішках», «у выглядзе» сумы пастанцыённых чыстых лішкаў», бо чыгуначныя перавозкі наогул і іх пастанцыённыя лішкі, у прыватнасьці, не ахапляюць усяе рыначнасьці гаспадаркі раёну, а толькі тую частку гэтай рыначнасьці, якая прыпадае на міжраённую (у шырокім сэнсе гэтага слова) сувязь,—сувязь з замежным рынкам, як яго разумее С. Ждановіч. («Пад замежным рынкам усюды будзем разумець рынак па-за межамі данага раёну». ст. 5 разгляданай працы).

Замежны рынак—дзяржавы, экономічнага раёну ці данага пункту чыгуначных перавозак, як-бы яго не разумеў Ждановіч, ня можа ахапіць поўнасьцю рыначнай сувязі гаспадаркі раёну. Гэтая сувязь рэалізуецца яшчэ ў больш шырокіх памерах ва ўнутраным рынку, які «зьяўляецца разам з таварнай гаспадаркай, утвараецца разьвіцьцём гэтае таварнае гаспадаркі, і ступень дробнасьці грамадзкага падзелу працы вызначае вышыню разьвіцьця якога». (Ленін, збор твораў, том III, ст. 41). «Унутраны рынак» для капіталізму ўтвараецца самім разьві-

ваючымся капіталізмам, які паглыбляе грамадзкі падзел працы і раскладвае непасрэдных вытворцаў на капіталістых і рабочых». (Ленін, там-жа).

Мэтай разьбіранае намі працы, па словах яе аўтара, зьяўлялася: «Вывучэньне тых зьмен, якія адбыліся ў сельскай гаспадарцы Беларусі, галоўным чынам у пэрыод з 1900 да 1913 г.» (ст. 5).

Калі раён так званага «Заходняга краю», да якога належыць і тэрыторыя этнографічнай Беларусі, аб якой ідзе гутарка ў разглядаемай працы, зьяўляецца раёнам найбольш інтэнсыўнай капіталізацыі сельскае гаспадаркі, капіталізацыі, якая азначала ператварэньне і «самаго земляробства ў прамысловасьць, г. зн. у галіну гаспадаркі, вырабляючую тавары» (Ленін, там-жа, ст. 14), то 1900—1913 гг. зьяўляюцца гадамі, калі спэцыялізацыя ў сельскай гаспадарцы капіталістычнай Беларусі дасягнула значных памераў. Адпаведна гэтай спэцыялізацыі ўзрасла роля ўнутранага рынку, а гэта абазначае, што лішкі «замежнага» рынку далёка не ахапляюць рыначнай сувязі гаспадаркі раёну, ня могуць адбіваць яе зьмен і ня могуць зьявіцца яе «фокуснай адзнакай».

Такім чынам, значэньне матэрыялу, на якім пабудавана разглядаемая праца, яўна пераацэнена. Далей, калі «замежныя» рыначныя лішкі ня могуць адбіваць стану і зьмен капіталістычнага земляробства, то тым больш нікчэмны гэты «фокусны» паказьнік для земляробства натуральнага. Таго-ж, што ў даваеннай Беларусі існавала разам з капіталістычна-таварным і проста натуральнае земляробства, даказваць асабліва ня трэба. Знаходзім мы пацьверджаньне гэтага і ў С. Ждановіча, калі ён, паміж іншым, зазначае такі факт што «натуральная, сялянская гаспадарка раёнаў, якія знаходзяцца далёка ад рынку, збывае забракаваную жывёлу» (ст. 19). Няўжо-ж падобная сувязь з рынкам і такія «лішкі» могуць адбіваць стан і зьмены гаспадаркі раёну? Няўжо-ж дзесятак яек, які збывае гаспадыня на рынак, і якія замыкаюць сабою ўвесь рыначны збыт гаспадаркі, зьяўляецца паказьнікам організацыйна-вытворчага тыпу данай гаспадаркі?—Зразумела, што не. Гэта можна праілюстраваць дадаткова і на прыкладзе сьвінагадоўлі на Беларусі. Маючы вялікую адносную вагу ў народным прыбытку амаль ва ўсіх даваенных паветах Беларусі, пры выразнай тэндэнцыі ўмацненьня сваёй адноснай вагі (гл. часопіс «Сельская і Лясная гаспадарка» за 1927 г. № 3, ст. 37), гэтая галіна лёкалізавала сваю «замежную» рыначную частку толькі ў некаторых паветах,

як Слуцкі, Полацкі—вываз жывых сьвіней, а таксама Віцебскі, Менскі і Полацкі—па вывазу сьвініны (там-жа, ст. 40).

Такім чынам, пры наяўнасьці паказанай сумяшчальнасьці ў сельскай гаспадарцы даваеннай Беларусі розных укладаў, ні чыстыя лішкі «замежнага» рынку, ні наогул рыначныя таварныя лішкі ня могуць цалкам адбіць стану і зрухаў у сельскай гаспадарцы раёну. Рыначныя лішкі наогул, у гэтых умовах, будучы вельмі цікавым і важным паказчыкам, павінны быць папоўнены і ўдакладнены належным аналізам валёрыстычна-вызначанай агуловай продукцыяй гаспадаркі і ўнутры яе гаспадарчага руху.

Другім пытаньнем, трактоўку якога мы лічым патрэбным разглядзець у разьбіранай працы С. Ждановіча і якое шчыльна зьвязана з папярэдне разгледжаным, гэта ёсьць цана. Сыстэма разважаньняў С. Ждановіча тут такая. Ён лічыць, што «зьмены ў сельскай гаспадарцы таго ці іншага раёну, іхні характар і тэмп залежыць з аднаго боку ад прыродных умоў, з другога боку—ад узроўню гаспадарчага разьвіцьця данага раёну, так кажучы, ад яе гістарычнага мінулага, а таксама ад кан'юнктуры сусьветнага рынку» (ст. 5). «Разьвіцьцё сельскай гаспадаркі Беларусі залежыць галоўным чынам ад замежнага рынку» (там-жа). Таму, «Аб зьменах ў сельскай гаспадарцы Беларусі мы,—піша Ждановіч,—будзем рабіць вывады па зьмене яе рыначнай сувязі. Прычыны зьмен рыначнай сувязі мы будзем шукаць у зьменах цаны, якая зьяўляецца ня толькі баромэтрам, але і рэгулятарам гаспадарчага жыцьця» (там-жа).

У гэтай концэпцыі, перш за ўсё мы заўважваем не тлумачэньне зьмен у сельскай гаспадарцы, а звычайную эклектычную зацірку з простага пераліку розных фактараў, без наданьчя ім той або іншай сыстэмы, без галоўнага і другараднага—апрацоўкі шматлікімі, але зусім непераканаўчымі словамі. У разьвіцьці-ж сельскай гаспадаркі Беларусі, паводле Ждановіча, атрымліваецца ўсё вельмі проста, замежны рынак тут зьяўляецца ў якасьці вызначальнага фактару. Соцыяльна-палітычныя і экономічныя фактары, як акраінная палітыка царскага ўраду, наяўнасьць вялікіх памераў абшарніцкага зямляўладаньня, разьвіцьцё сельска-гаспадарчай індустрыі, спэцыялізацыя і, у сувязі з гэтым, зноў такі, унутраны рынак,—усё гэта такія рэчы, якія не заслугоўваюць увагі Ждановіча пры разглядзе разьвіцьця сельскае гаспадаркі Беларусі. Тымчасам, як гэтыя моманты, будучы абумоўлены пэўнымі гра-

мадзкімі адносінамі, робяць вялікі ўплыў на разьвіцьцё вытворчых сіл наогул і сельскае гаспадаркі, у прыватнасьці.

Такім чынам, рабіць вывады аб зьмене ў сельскай гаспадарцы даваеннай Беларусі наогул па зьмене яе рыначнасьці будзе няправільна, тым больш, калі пад гэтаю рыначнасьцю разумееца сувязь з «замежным» рынкам, вызначаная ў чыстых лішках вывазу.

Няправільная і мэханічная, адарваная ад умоў і часу, ацэнка, якую дае Ждановіч цэнам. Калі ў капіталістычных умовах вытворчасьць рэгулюецца хістаньнем цэн навакол вартасьці, калі тут рынак на мове цэн «пляную» вытворчасьць наогул і яе разьмеркаваньне па галінах, то гэта—не закон для ўсіх грамадзкіх укладаў і бесканечнага часу, а безагаворачны закон капіталізму і толькі. Зараз спынімся на такіх пытаньнях з разгляданай працы яго, якія становяць сабою вынікі з аналізу паказаных раней матэрыялаў, аналіз ў асьвятленьні, кіруючыся разабранымі вышэй тэорытычнымі прадпасылкамі.

Надаючы вызначальную ролю такому паказьніку, як «замежныя» (мы ўсюды ўжываем гэты тэрмін ў разуменьні, якое надаў яму С. Ждановіч, гл. вышэй) рыначныя лішкі, Ждановіч канстатуе «рост інтэнсыўнасьці гаспадаркі па меры пераходу з Усходу на Захад Беларусі» (ст. 27), а на ст. 34, стыкнуўшыяся з супярэчнымі сваёй канцэпцыі фактарамі, якія заключаюцца ў тым, што па меры пераходу з Захаду на Ўсход назіраецца «рост умоўных рыначных лішкаў на душу сельскага насельніцтва»—сьцьвярджае, усьлед за гэтымі супярэчлівымі для яго данымі, «што рост рыначнасьці гаспадаркі яшчэ ня сьведчыць аб яе рацыянальнай інтэнсыфікацыі. Наадварот, рыначнасьць можа быць і шкоднай, падрываючай арганізацыйныя асновы гаспадаркі» (ст. 34).

Апошняе «глыбокамысьленае» заключэньне не растлумачана. Ва ўсякім разе гэтае заключэньне перакідвае дагары нагамі ўсе папярэднія штучныя награмаджэньні з нічога і на пяску, якія зрабіў Ждановіч. Развэжаньні-ж аб інтэнсіфікацыі з «Усходу на Захад» выглядаюць наогул вельмі шаблёнымі, але па сутнасьці іх мы зараз гаварыць ня будзем

На ст. 13 Ждановіч дае чамусьці зусім процілеглую ацэнку пашырэньню жыта, чым, як гэта мы бачылі, росту агульнай рыначнасьці, што, зноў такі, вымагаецца ў яго патрэбнасьцю прымірыць факты з шаблёнам адносна ўзросту рацыянальнай інтэнсыўнасьці «з Усходу на Захад» і захапленьнем ад таго, што «гаспадарка Заходняй Бела-

русі пачынала будавацца па тыпу нямецкай» (ст. 13). Апошняе, не выпадковая фраза, а ўстановачка, разьвіцьцё якой мы яшчэ пабачым у далейшым.

Ждановіч піша, што «даныя аб зьмене галоўнейшых збожжавых культур паказваюць чакольні нягрунтоўна звычайная думка, што з росгам інтэнсіфікацыі гаспадаркі ўдзельная вага зярнёвых зьніжаецца» (ст. 13). Гэта сказана пасьля таго, як выявілася наяўнасьць «замежных» рынаачных лішкаў жыта для заходніх губэрань Беларусі ў 1875 годзе, пры адсутнасьці яго ва ўсходніх губэрнях. Далейшыя-ж падаваныя ім даныя аб вывазе за г. г. 1900—13 (ст. ст. 10, 11, 12) якраз сьведчаць аб памяншэньні адноснай вагі зярнёвых, але жаданьне падмацаваць нyўдалыя шаблёны прымушае Ждановіча не заўважваць гэтага.

Дэкляруючы ўзрост інтэнсыўнасьці сельскае гаспадаркі Беларусі «па меры пераходу з Усходу на Захад», тлумачачы такую славутную законамернасьць такімі прычынамі, як «пераважны ўплыў заходняга рынку і больш культурнай гаспадаркі Захаду» (ст. 27), Ждановіч зьвязвае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі ўжо БССР з гэтым рынкам і культурай. Праца, пачатая пад рэакцыйным нацыянал-дэмократычным лёзунгам аб «пабудове мясцовай беларускай сельска-гаспадарчай экономіі», канчаецца ня менш рэакцыйным кандрацьцеўскім лёзунгам, констатуючым «выключнае значэньне замежнага рынку для разьвіцьця сельскае гаспадаркі Беларусі, а знача коопэрацыі, як *організатара збыту*» (ст. 38, падкрэсьлена мною—*С. М.*). Гэты лёзунг ёсьць ні больш ні менш, як нясьмелае, вучнёўскае пераказваньне слоў свайго настаўніка аб тым, што «Пакуль руская сельская гаспадарка будзе адарвана ад сусьветнага рынку, мы ня можам разьлічваць на посьпех яе хуткага адраджэньня. Толькі сувязь з сусьветным рынкам можа дапамагаць хуткаму паляпшэньню кон'юнктуры для рускае сельскае гаспадаркі. Толькі ён можа хутка ўліць у рускую сельскую гаспадарку новую моц. Вось чаму трэба зьнішчыць перашкоды, якія стаяць на шляху да гэтай сувязі... Гэтыя перашкоды мы бачым ва ўмовах сучаснай *нацыяналізацыі замежнага гандлю*. Умовы замежнага гандлю павінны быць рэформаваны. Ад сучаснага запрыгоненага стану мы павінны, у той або іншай форме пасьлядоўнасьці перайсьці да звычайных умоў міжнароднага гандлю». (Кондратьев «Вестник Сельского Хозяйства», № 6-7, 1922 г.).

Да выкананьня гэтых контррэволюцыйных імкненьняў буржуа прыстасоўваецца і коопэрацыя, якая кваліфікуецца організатарам збыту і кропка. Так злучаецца беларускі нацыянал-дэмократызм з навучаньнем кандрацьцеўшчыны ў аграрным пытаньні. Так будуецца «мясцовая беларуская с.-г. экономія».

У заключэньне ўсё-ж трэба адзначыць, што фактычны матэрыял, які дадаты да разгляданай працы, становіць сабою значную цікавасьць і каштоўнасьць і з посьпехам можа быць выкарыстаны пры марксыцкім яго аналізе.

Ажыцьцяўленьне нацыянал-дэмакратычнага лёзунгу аб пабудове «мясцовай беларускай с.-г. экономіі», атрымаўшы літаратурнае абнародваньне першых сваіх крокаў у выглядзе разабранае раней працы, пачало шырока і ўжо значна сьмялей разгортвацца.

Я. Кісьлякоў, будучы кіраўнікам «навуковага» ўгрунтаваньня зямляўпарадкоўчае політыкі НКЗБ у якасьці загадчыка аддзелу с.-г. эконэміі, зрабіў усё патрэбнае для адлюстраваньня імкненьняў беларускага кулацтва ў пытаньнях аграрнае політыкі БССР. Пад яго ўплывам, кіраўніцтвам і аўтарствам былі заснаваны вядомыя двайныя нормы зямлянадзяленьня або, так званыя, мінімальная (спажывецкая) і максімальная (працоўная) нормы. Ім-жа былі ўгрунтаваны хутары, пасёлкі і выселкі, а таксама іншыя скажэньні ў аграрнай політыцы НКЗБ. Усе гэтыя моманты атрымалі належную крытыку ў друку і мы ня будзем паўтарацца (гл. «Сельско-хозяйственная газета» № 174, ад 27. IX. 1929 г., а таксама «Правда» ад 8. IX. 1929 г., № 205)

Гэтая сыстэма кулацкага ўгрунтаваньня політыкі НКЗБ, сыстэма, атрымаўшая назву кісьлякоўшчыны, аб'ядналася з практыкаю, вядомаю пад назваю прышчэпаўшчыны, практыкаю, якая вызначалася ў сакрэтных цыркулярах аб тым, каб пры выбары насельніцтвам такіх форм зямлякарыстаньня, як хутары і адрубы, «ніякіх перашкод не рабіць», а таксама ў тым, каб «праводзіць будаўніцтва дробных пасёлкаў».

У выніку злучэньня кісьлякоўшчыны з прышчэпаўшчынай, аб'яднаньня контррэволюцыйнае тэорыі беларускае кандрацьцеўшчыны з опортуністычнай практыкай, мы мелі ў конкрэтнай рэалізацыі на БССР такую аграрную політыку, якая давала форсыраваны тэмп узросту індывідуальных форм зямлякарыстаньня (хутары, адрубы і дробныя пасёлкі) і вельмі слабы тэмп узросту і абслугоўваньня кол-

гасаў і саўгасаў, політыку, якая давала форсыраваны ўзрост кулацкіх гаспадарак (праз максымальныя нормы, ільготы «культурным» гаспадаркам ды інш.) і ўсякім спосабам ушчамляла беднату вёскі. Такой аказалася конкрэтная рэалізацыя тэорытычных пабудоў беларускіх кандрацьцеўцаў па «мясцовай сельска-гаспадарчай экономіі».

Я. Кісьлякоў, замацаваўшы ў форме норм, інструкцый, традыцый і г. д. кандрацьцеўшчыну ў працы НКЗБ, перайшоў на працу па выхаваньні кадраў у БДСГА. Тут, паміж справаю, ён разам з другімі «вучонымі» правёў, па даручэньні БНДІ, досьлед па эфэктыўнасьці розных форм зямлякарыстаньня. Частка досьледу, якая прыпадала на яго долю,—«оптымум тэрыторыі і эфэкт зямлякарыстаньня пасёлкаў»—была выканана форсыраваным тэмпам. Атрымалася праца на 140 старонак тэксту і 114 стар. табліц пад вядомаю ўжо назваю «Пасёлкі», дзе, пасьля шматслоўнага «аналізу» і розных зваротаў, аўтар, нарэшце, схапіў сябе за ўласны хвост і заявіў, што «ніжэйшай мяжой оптымуму трэба лічыць пасёлак у 80 гект.», а «вышэйшай мяжою оптымуму рэальна трэба прызнаць пасёлак у 250 гект., або пасёлак прыблізна ў 25 двароў. «Гэта ёсьць фактычна тое-ж, што ажыцьцяўлялася ў практыцы зямляўпарадкаваньня НКЗБ і да гэтага «вучонага» аналізу эфэктыўнасьці, тое, што санкцыянавалася сакрэтнымі адносьнікамі НКЗБ і што зьяўлялася працягам сталыпінскае хутарызацыі, спрыяючай не соцыялістычнаму, а капіталістычнаму разьвіцьцю сельскае гаспадаркі БССР, тое, чым у свой час «навукова» кіраваў ён-жа Я. Кісьлякоў.

Мы ня будзем тут разьбіраць гэтае працы Я. Кісьлякова, бо яна атрымала ўжо дастатковую ацэнку. Мы можам толькі адаслаць зацікаўленых чытачоў да часопісу «На аграрным фронце», № 7 за 1929 г., дзе яны могуць азнаёміцца з ацэнкаю гэтае працы, працы, якая дала «тэорытычнае» афармленьне ўжо практычнае рэалізацыі тэорыі беларускае кандрацьцеўшчыны і нэо-народнікаў—беларускага нацыянал-дэмократызму ў аграрным пытаньні.

Магутная хваля самакрытыкі з боку рабочае клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, палажыла рашучы канец шкоднай практыцы ў аграрнай політыцы—прышчэпаўшчыне, а ў тэорыі—кісьлякоўшчыне. Носьбіты контр-рэволюцыйнай тэорыі і опортуністычнае практыкі былі пазбаўлены усякай магчымасьці рабіць сваю шкодную справу, а шырокія бядняцка-серадняцкія масы сялянства праз практычную, масавую організацыю колгас-

нага будаўніцтва сельскае гаспадаркі, даказалі яшчэ раз, і практычна, беспадстаўнасьць і абсурднасьць «навуковых» прагнозаў беларускіх кандрацьцеўцаў аб шляхох разьвіцьця вёскі.

Другі пабрацім Кісьлякова па вызначэньні «эфэктыўнасьці» М. П. Макараў таксама напісаў даволі аб'ёмістую працу пад назваю «Спроба вывучэньня эфэктыўнасьці форм зямлякарыстаньня ў БССР». У гэтай працы, якая мае 94 стар. тэксту і 112 ст. табліц, атрымаўся даволі цікавы кур'ёз. Перш за ўсё, мэтодолёгічны прыём аўтара, па адбору об'ектаў, зьвёўся да таго, што сталыпінскія хутары раўняліся з адно што ўтворанымі колгасамі ды інш., накшталт гэтага. Затым, дана ацэнка розным формам зямлякарыстаньня на падставе раду тэхнічных і натуральных паказьнікаў, як лік палосак на гаспадарку і га. дальнязямельле, суадносіны ўжыткаў, разьмер зямлякарыстаньня, разьмер асноўных сродкаў вытворчасьці ды інш.

Зусім зразумела, і гэта можна было без грамоздкага досьледу прадугледзець, што ўсе гэтыя паказьнікі станавіліся ў такі рад, у якім stationоўчая эфэктыўнасьць ішла ў кірунку—хутары, адрубы, пасёлкі, вёскі, колгасы. Сам аўтар не дадумаўся ў чым справа, але зразумеў (праўда, зразумеў пад уплывам крытыкі першае спробы падобнага досьледу Кісьлякова), што ў яго атрымліваецца глупства. І таму ён усякімі спосабамі жадае перарабіць гамонку яго лічбаў, на гамонку ўласных слоў тэксту.

Тое-ж самае атрымалася і з трэцім удзельнікам гэтае агульнае працы з «эфэктыўнасьцю», пад кіраўніцтвам Я. Кісьлякова, інжынэрам Ліотдам. Апошні займаўся вузка-тэхнічным эфэктам розных форм зямлякарыстаньня, займаўся гэтым пытаньнем, як сапраўдны каморнік ні больш.

Мы ня будзем дакладна разьбіраць гэтыя працы паколькі яны ўсе ўжо абясшкоджаны, што ім, апроч «пасёлкаў», не давялося пабачыць чытачоў. Адзначым толькі, што ўсе яны знаходзяцца ў палоне мэханістычнае мэтодолёгіі нэо-народніцтва, усе яны шаблёнізавалі з Чаянава ды інш. суму тэхнічных паказьнікаў па ацэнцы «эфэктыўнасьці», паказьнікаў адарваных ад соцыяльна-экономічных умоў, ад умоў тэхнікі. Усе гэтыя працы зьявіліся яскравым прыкладам тэй «блытаніны и хлусьні», якая атрымліваецца ад ужываньня ў досьледзе не марксыцкага мэтоду, ад няўменьня ці нежаданьня карыстацца сапраўднай зброяй навуковых досьледаў—мэтодам матэрыялі-

стычнае дыялектыкі, аб чым так яскрава ў свой час зазначалася Ў. І. Леніным.

Да гэтых прац далучаецца праца М. Лайкова—«Нарыс па грамадзкай агрономії Беларусі», разгляд якой мы даём у далейшым, а таксама праца А. Смоліча—«Організацыя сялянскае гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнай Беларусі», якая разабрана намі далей.

Сюды-ж трэба залічыць і зборную працу пад назвай—«Нарысы сельскае гаспадаркі Мазырскага Палесься» (Смоліча, Лайкова, А. Ярашчука, В. М. Сьвіршчэўскага), якая хоць і разрэклямавана не па зьместу, але не пабачыла сьвету з-за сваёй шкоднасьці.

Усё гэта ягадкі з аднаго поля, усё гэта высілкі ў кірунку выкананьня лёзунгу Я. Кісьлякова аб «Пабудове мясцовай беларускай сельска-гаспадарчай экономії», усё гэта розныя адценьні аднае і тае-ж «кісьлякоўшчыны»—беларускае кандрацьцеўшчыны.

Але першаму практычнаму выканаўцу гэтага лёзунгу С. Ждановічу ўсё-ж належыць пяршынства і па сутнасьці блытаніны ў гэтым кірунку. блытаніны, якую ён ажыцьцявіў у больш «сьпелым» сваім творы—«Да пытаньня аб умовах разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі ў Беларусі»—да разгляду якога мы цяпер і пераходзім.

* * *

Гэтая праца С. Ждановіча, хаця ўжо і падлягала некаторай крытыцы (гл. часопіс «На аграрным фронце», № 9, за 1929 г.), але яна заслугоўвае таго, каб над ёй яшчэ раз спыніцца і разабраць дадаткова некаторыя яе моманты.

Задачы, а адгэтуль і значэньне гэтае працы, вызначаюцца яе аўтарам у тым, «каб на прыкладзе аналізу організацыйна-вытворчых і рынкавых умоў разьвіцьця аднае з галін сельскае гаспадаркі ў адным раёне, па-першае, раскласьці той комплекс пытаньняў, які зьвязаны з аналізам умоў разьвіцьця кожнае галіны сельскае гаспадаркі ва ўсякім раёне, па-другое, пастараецца знайсьці *шляхі і способы* разьвязаньня пастаўленых пытаньняў» (ст. 3, падкрэсьлена мной—*С. М.)*. У гэтым увогуле блытаным вызначэньні задач працы, у пасяганьні «Об'ять необ'ятное», даволі выразна тэндэнцыя—даць «шляхі і способы» вырашэньня пытаньня ўмоў разьвіцьця «кожнае галіны сельскае гаспадаркі», гэта значыць умоў разьвіцьця сельскае гаспадаркі, як комплексу галін, або, больш проста, даць сыстэму аграрна-політычных мерапрыемстваў, якія-б абумовілі разьвіцьцё па-

жаданага тыпу сельскае гаспадаркі. Як пабачым з далейшых разважаньняў Ждановіча, ён не абмяжоўваецца організацыйна-вытворчым тыпам сельскае гаспадаркі, а «раскладвае той комплекс пытаньняў», які мае дачыненьне і да соцыяльна-экономічнага тыпу гаспадаркі. Вырашэньне, якое-б яно ні было, падобных пытаньняў, хоць яны ў разгляданай працы, як адзначае сам аўтар, і ня вычэрпваюцца цалкам, ня можа не закрануць асноў аграрнае політыкі. Таму, заўвага Ждановіча аб тым, што памылкі яго працы «практычна ня могуць быць асабліва шкоднымі» (там-жа), інакш, як няўдалаю абароннай падфарбоўкаю, назваць нельга.

Паглядзім-жа яго аналіз пастаўленых ім-жа пытаньняў, а таксама «шляхі» і «спосабы» разьвязаньня гэтых пытаньняў. Перш за ўсё спынімся на мэтодолёгіі самаго дасьледваньня і матэрыялах, якія ляглі ў аснову далейшых «тэорытычных» абагуленьняў Ждановіча.

На стар. 6 разгляданай працы Ждановіч «глыбокамысьленна» заяўляе, што «сучаснае ў значнай меры зьяўляецца вынікам мінулага, з гэтай прычыны веданьне мінулага можа дапамагчы разуменьню сучаснага і наадварот». Гэты схэматызм і вульгарызацыя ўзьведзены ім у ступень «філёзоўскага» грунту ўсяе наскрозь мэханістычнае працы «аб умовах разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі ў Беларусі». На гэтым прынцыпе абрана для досьледу Случчына, бо гэты раён перад вайною (1914 г.) «быў паветам са значным разьвіцьцём рынкавае сьвінагадоўлі, уяўляючы сабою ўсходні край вялікага сьвінагадоўчага раёну, Паўднёва-Заходняе часткі Беларусі, да пэўнай ступені рэпрэзэнтуючы гэты раён» (стар. 10). Пералічыўшы яшчэ рад фактараў, якія абумовілі выбар гэтага раёну, Ждановіч заключае, што наогул «Случчына зьяўляецца надзвычайна ўдзячным об'ектам дзеля вывучэньня шмат якіх організацыйна-вытворчых проблем Беларускае сельскае гаспадаркі» (стар. 11). Бо, «калі сельская гаспадарка Польшчы і Ўсходняе Прусіі ў *організацыйна-вытворчых адносінах* можа быць прызнана ў пэўным умоўным сэнсе паказальнікам бліжэйшага разьвіцьця сельскае гаспадаркі Случчыны і падобных раёнаў Паўднёва-Заходняе часткі Беларусі, дык, з другога боку, організацыйна-вытворчая структура сельскае гаспадаркі Случчыны, сваім чарадом, можа быць прызнана да некаторай ступені паказальнікам бліжэйшага разьвіцьця некаторых іншых раёнаў Беларусі, у першую чаргу, мне здаецца, Магілеўшчыны» (стар. 10).

Далей было ўзята для абсьледаваньня—у 5—8 кілёмэтрах ад Слуцку (Казловіцкі сельсавет) 5 гаспадарак, у 21 кілёмэтры (Грозаўскі сельсавет) 4 гаспадаркі і ў 36 кілёмэтрах (Семяжоўскі сельсавет) 2 гаспадаркі. Пры гэтым «тры з абсьледваных гаспадарак маюць хутарскую форму зямлякарыстаньня, іншыя падворна-церасналосную» (ст. 17). Хутарскія гаспадаркі, па адзнацы Ждановіча, разьмяшчаюцца пад Слуцкам.

Абсьледаваныя гаспадаркі, па адзнацы Ждановіча, «мала дыфэрэнтаваны, яны набліжаюцца (з якога боку? *С. М.)* да сярэдніх гаспадарак (стар. 16). Абраны гаспадаркі па таму прынцыпу, што «найбольшую цікавасьць для абсьледваньня прадстаўлялі гаспадаркі з выразна выяўленым разьвіцьцём галіны рынкавае сьвінагадоўлі», «... па гэтай адзнацы вызначаўся і адбор гаспадарак у селішчах» і, нарэшце, былі ўзяты для абсьледваньня гаспадаркі «толькі аднае групы, найбольш цікавай з пункту гледжаньня задачы абсьледваньня» (стар. 16).

Увесь гэты мэтодолёгічны букет, папярэджаны вышэй паданым агульным «філёзоўскім» прынцыпам аб тым, што «сучаснае ў значнай меры зьяўляецца вынікам мінулага» і г. д., заключаецца больш конкрэтызаванай формулёўкай таго-ж самага прынцыпу, а менавіта, «што зьмена форм сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў, як у прасторы, гэтак і ў часе, мае законамерны характар (разумеючы законамернасьць, як аднастайнасьць паступовасьці або суіснаваньня). Пры гэтым, адны раёны могуць у большай або меншай ступені паўтараць гісторыю разьвіцьця іншых раёнаў» (стар. 10). Нарэшце, гэтае перайманьне Мільля ў тэорыі спушчаецца Ждановічам у практычнае жыцьцё, у форме тэзысаў, што абагульняе вынікі досьледу, які заключаецца ў тым, што «з абсьледваных гаспадарак на першым месцы ў організацыйна-вытворчых адносінах стаяць гаспадаркі з хутарскім зямлякарыстаньнем і бліжэйшыя ад рынку, значыцца, у некаторым сэнсе яны паказваюць напрамак, па якім павінныісьці іншыя гаспадаркі ў сваіх організацыйна-вытворчых формах» (ст. 10).

Такава лёгіка досыць блытаных мэтодолёгічных разважаньняў Ждановіча па яго досьледу. Разгледзім-жа яго оргумэнтацыю па парадку. З жаданьнем Ждановіча аб пабудове сельскае гаспадаркі БССР па тыпу нямецкай і польскай нам ужо даводзілася спатыкацца пры разглядзе яго «Характарыстыкі сельскае гаспадаркі...». Гэтая капіталістычная рэстаўрацыя, праз пабудову сельскае гаспадаркі

БССР па тыпу нямецкае і польскае, абвешчаная рознымі абароннымі агаворкамі і ўмоўнасьцямі (гэта зусім зразумела, бо Ждановіч піша ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту) не становіць з сябе нічога новага ў параўнаньні з творамі кандрацьцеўшчыны наогул ды іх пераказам у ранейшай, разгледжанай намі, працы Ждановіча. Ён раіць разглядаць разьбіраную яго працу, «як некаторую папярэднюю гіпотэзу, неабходную дзеля далейшых дасьледваньняў умоў разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі» (стар. 18) ну і, каб лепш угрунтаваць гэтую «гіпотэзу», Заходня-Эўропэйскі шаблён, сьпісаны ў Аэрэбоэ, Брынкмана ды інш. буржуазных аўтараў па організацыі сельскае гаспадаркі гэтых краін, Ждановіч абірае для досьледу Случчыну, якая становіць для гэтых мэт «найбольшую цікавасьць», бо тут найбольш разьвіты капіталістычныя формы гаспадаркі, найбольшы процант кулацкіх гаспадарак. З другога боку Случчына, як раён досьледу, хоць і цікавы, але яна ні ў якім разе ня можа задаволіць, па сваіх об'ектах, вызначаных Ждановічам задач досьледу.

На тэрыторыі БССР, дзе, амаль ва ўсіх яе частках, сьвінагадоўля мела, мае і будзе мець выключна вялікае значэньне (значна большае, чым яно тэрыторыяльна вызначана Ждановічам па матэрыялах «лішкаў замежнага рынку», над якімі мы ўжо спыняліся раней), мы маем зусім розныя тыпы сьвінагадоўлі, пачынаючы ад экстэнсыўнае мяса-сальнае да найбольш інтэнсыўнае бэконнае сьвіньні. Гэтыя тыпы адрозьніваюцца далей па кармавой базе, а гэты момант мае выключна важнае значэньне для разьвіцьця сьвінагадоўлі. Адсюль раўнаць паміж сабою сьвінагадоўлю Случчыны, Магілеўшчыны, Віцебшчыны і г. д. і на падставе «аналізу» організацыйна-вытворчага тыпу сьвінагадоўлі Случчыны пісаць шаблёны для ўсяе БССР, бязумоўна, нельга і недапушчальна. Тым больш недапушчальна пераносіць падобныя хоць-бы і «організацыйна-вытворчыя» шаблёны з гаспадарак капіталістычных краін, як Нямеччына і Польшча, на ўмовы БССР, з наданьнем гэтым шаблёнам значэньня паказальнікаў шляхоў «бліжэйшага разьвіцьця сельскае гаспадаркі Случчыны» і г. д.

Падобны перанос інакш, як груба мэханістычным (што так уласьціва буржуазным экономістым наогул, а таксама кандрацьцеўцам ды іншым блытанікам у прыватнасьці) назваць нельга. Нават пры шчырым жаданьні выкарыстаць дасягненьні тэхнікі ў капіталістычнай сельскай гаспадарцы БССР, мала ўжыць тэрмін «умоўна», каб організа-

цыйна-вытворчы тып гаспадаркі сучаснай Нямеччыны або Польшчы, або нават кулацкае гаспадаркі Случчыны, зрабіць ужо дапасаваным для соцыялістычнага будаўніцтва. Бо, што, напрыклад, агульнага можа знайсьці Ждановіч паміж сучаснымі сьвінагадоўчымі колгасамі і саўгасамі БССР і абсьледванаю ім сьвінагадоўчай гаспадаркаю кулака з Случчыны?

Тым больш дзіравай зьяўляецца заслона ўмоўнасьцяй Ждановіча, калі ён ужывае яе для захаваньня сваіх кулацкіх імкненьняў угрунтаваць патрэбнасьць і шляхі капіталістычнага разьвіцьця сельскае гаспадаркі БССР.

Тое-ж самае мы маем і з абсьледванымі гаспадаркамі. Абсьледвана ўсяго 11 гаспадарак. Такая колькасьць матэрыялаў можа быць выстарчальнай толькі для таго, каб мець прычэпку пагаварыць аб прачытаным, пераказаць погляды сваіх настаўнікаў па раней вызначанаму пляну, што толькі фактычна і зроблена Ждановічам, але гэтых матэрыялаў, бязумоўна, мала для таго, каб больш, менш сур'ёзна вывучыць хоць-бы фактычны стан таго або іншага організацыйна-вытворчага пытаньня. Тым больш гэты матэрыял нікчэмны, што ў ім прадстаўлены гаспадаркі толькі аднае соцыяльна-экономічнае групы,—гаспадаркі, якія, паводле Ждановіча, «набліжаюцца да сярэдніх гаспадарак». Што гэта набліжэньне ідзе з боку кулацкага, сьцьвярджаецца бюджэтнымі данымі з гэтых гаспадарак па ліку зямлі, жывёлы, агуловаму прыбытку таварнай часткі, нанятых рабочых, складу с.-г. інвэнтару, запасаў і г. д. Гэта можна бачыць з наступнае таблічкі, складзенае паводле даных фактычных матэрыялаў Ждановіча.

| №№ гаспад. | Усяе зямлі ў *га* | Усяго галоў | | | Агуловы прыбытак гаспад. у рубл. | Таварнасьць у рубл. | Лік дзён нанят. рабоч. | Кошт няжывога інвэнтару | Запасы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Коняй | Кароў | Сьвіней | | | | | |
| 1 | 6,01 | 2 | 2 | 4 | 2475.9 | 298.0 | 27 | 134,7 | 1039,1 |
| 2 | 8,20 | 3 | 3 | 8 | 2537,0 | 514.0 | 4 | 168,7 | 1033,2 |
| 3 | 17,55 | 2 | 7 | 21 | 4513,4 | 818,3 | 22 | 738,4 | 908,9 |
| 4 | 11,59 | 3 | 6 | 7 | 3539,9 | 276,9 | 3 | 450,5 | 791,2 |
| 5 | 10,08 | 2 | 5 | 19 | 3097.7 | 380.5 | 25 | 193.0 | 609,9 |
| 6 | 10,97 | 4 | 3 | 5 | 2481,5 | 174,2 | 4 | 177.9 | 352,5 |
| 7 | 11,79 | 2 | 5 | 7 | 2101.3 | 38,8 | — | 157,7 | 647,2 |
| 8 | 13,82 | 3 | 5 | 11 | 3123,7 | 262,0 | 29 | 464,8 | 536,2 |
| 9 | 10,12 | 2 | 4 | 11 | 2843,9 | 299,2 | 6 | 728,6 | 385.5 |
| 10 | 10,41 | 3 | 6 | 3 | 3121,1 | 416,8 | 11 | 277,1 | 467,5 |
| 11 | 6.25 | 2 | 4 | 2 | 2605,5 | 212,0 | — | 626,6 | 499,7 |

Гэтыя даныя, прымаючы пад увагу іх звычайнае для бюджэтаў паніжэньне супроць сапраўднасьці, пацьвярджаюць цалкам сказанае вышэй аб належнасьці абсьледваных гаспадарак пераважна да кулацкае групы. Але Ждановіч абраў сьвядома адзін тып гаспадаркі, кіруючыся, па-першае, тым, каб гаспадаркі зьяўляліся для выкананьня задач яго досьледу «найбольш цікавымі» і, па-другое, таму, што яму вельмі падабаецца «гіранічная заўвага» Аэрэбоэ па гэтаму поваду аб «правільнасьці выслоўя Вільгэльма Буша—«Des Wurmes länge ist Verschieden» [1]) (стар. 18). Так тупагалова асьліць можа толькі гнілы буржуа, крытыкуючы мэтодолёгічны прынцып марксызму аб неабходнасьці разглядаць не сялянства наогул і не серадняка, як нешта тыповае для ўсяго сялянства (гэта грубейшы мэханізм), а розныя соцыяльна-экономічныя групы сялянства. Мы спыніліся над гэтым трукам Ждановіча не таму, што яго трэба крытыкаваць, гэтая буржуазная пашляціна і так ясна для кожнага больш менш пісьменнага экономістага, а тым больш аграрніка, мы спыніліся над ім для таго, каб паказаць, як у клясавым змаганьні выкарыстоўваецца нават яўнае глупства, каб адзначыць, што «глупства можа станавіцца грознаю соцыяльнаю сілаю, калі яно служыць клясавым інтарэсам».

Вось чаму гэтае глупства, пад аўторытэтамі Аэрэбрэ і Буша, прасоўваецца Ждановічам у беларускую літаратуру па экономіі сельскае гаспадаркі, вось чаму ён зласьмешна сюсюкае «Des Wurmes länge ist Verschieden» і ад сябе, ня менш плоска, разьвівае: «вельмі часта групы прадстаўлены некалькімі гаспадаркамі, і ўвесь далейшы «аналіз» гэтых груп зводзіцца да пераказваньня сваімі словамі таблічак, якія наогул паказваюць, што ў буйных гаспадарках болей, чымся ў дробных, зямлі, жывёлы, інвэнтару, агульнае продукцыі ды інш. самі сабою відавочныя палажэньні» (ст. 18—19).

Але спалохаўшыся сваіх надмерна сьмелых разважаньняў, Ждановіч зараз-жа заяўляе, што ён гэтым не адмаўляе патрэбнасьці аналізу «рознастайных соцыяльна-экономічных груповак сялянства», а гэта яму, бачыце, толькі «здаецца, што параўнаньне гаспадарак рознастайных груп па цэламу шэрагу адзнакаў яшчэ ні ў якой меры не дае аналізу організацыі гаспадаркі гэтых груп». (стар. 18). Нарэшце, ён і ня бачыць «неабходнасьці аднačасовага аналізаваньня

[1]) Даўжыня чарвяка розная.

гаспадаркі ўсіх групаў», бо гэтую працу можа, паводле яго думкі, з посьпехам замяніць «дэдукцыйна-конструкцыйны мэтод аналізу» (там-жа).

Якое крыўленьне душою!

Раз справа ў колькаснай розьніцы лічбаў па групах, то зусім ясна, што рабіць лішнюю працу па аналізу ўсіх гэтых груп няма чаго. Але, як відаць, відавочная недарэчнасьць такіх палажэньняў не дае пакою іх аўтару і яму прыходзіцца рабіць розныя выкрунтасы, каб хоць блытанінаю задурманіць чытача. Так ім скажаецца марксыцкі-ленінскае палажэньне аб неабходнасьці аналізу розных груп сялянства, так змазваецца соцыяльная дыфэрэнцыяцыя вёскі, так «з боку» (больш простую крытыку мы яшчэ спаткаем) крытыкуецца экономічная політыка савецкай улады ў адносінах да розных соцыяльна-экономічных груп сялянства.

Такім чынам, ні мэтодолёгія аўтара, ні абраны ім раён досьледу і гаспадаркі, ні агульная колькасьць і якасьць матэрыялаў, нішто і ні ў якай ступені не адпавядае таму, каб лічыць работу аўтара «як папярэднюю гіпотэзу, неабходную дзеля далейшых дасьледваньняў умоў разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі». На гэтай працы хутчэй можна вучыцца, як ня трэба рабіць досьледу. Праўда, з Ждановічам у гэтай працы атрымалася ў свой час тое, што Кузьма Пруткоў заключае ў прыслоўе: «человек не будучи одеян самою природою, получил свыше дар портного искусства», бо гэтую працу ўзьвялі беларускія кандрацьцеўцы ў «першаклясны твор», а яе аўтара ў «буйнейшага экономістага тэорэтыка». Але такавы ўжо лёс беларускіх кандрацьцеўцаў «памыляцца».

Імкнучыся накіраваць разьвіцьцё сельскае гаспадаркі БССР па шляху капіталізму і шаблёнізаваўшы гэты тып з умоў Нямеччыны і Польшчы на ўмовы БССР, праз Случчыну, Ждановіч, у далейшым ходзе разважаньняў і «аналізу», імкнецца знайсьці «шляхі і способы разьвязаньня пастаўленых пытаньняў», імкнецца даць «гіпотэзу» для рэалізацыі вызначанага ім тыпу сельскае гаспадаркі для БССР.

У мінулым Беларусі аўтар бачыць толькі станоўчыя бакі. Так ён констатуе, што адсутнасьць «общины» на Беларусі «спрыяла рацыянальнай інтынсыфікацыі сельскае гаспадаркі і разьвіцьцю прадпрыемных здольнасьцяй у сялян (якіх сялян?—*С. М.*). Гэтаму таксама спрыяла вялікая колькасьць рацыянальна наладжаных прыватнаўласьніцкіх гаспадарак» (ст. 7). Абмежаваўшы ролю гэтае аднае

з умоў узмоцненай капіталізацыі сельскае гаспадаркі Беларусі да разьвіцьця «прадпрыемных здольнасьцяй у сялян» і спрыяньню рацыянальнае інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі, змазаўшы гэтымі сьціплымі назвамі соцыяльны бок моманту ўзмоцненай капіталізацыі, Ждановіч ідэалізуе і само буйнае прыватна-ўласьніцкае земляробства. Апошняе, праз арэнду, плацёж якой «павялічваў у сялянскай гаспадарцы патрэбнасьць на грошы» (стар. 8) «рэформавала да званьня самаго гаспадара, узмацняючы у ім рысы прадпрыемцы» (там-жа). Увесь процэс капіталізацыі сельскае гаспадаркі даваеннай Беларусі, як бачым, прадстаўлены Ждановічам у ружовых фарбах «рацыянальнае інтэнсіфікацыі». Тое-ж, што процэс узмоцненае капіталізацыі адбываўся разам з узмоцненым расплastаваньнем сялянства, што гэта распластаваньне станавіла сабою «сукупнасьць усіх экономічных супярэчнасьцяй у сялянстве», што гэта распластаваньне самі сяляне «метка і рэльефна характарызуюць: «расьсяляніваньне» — гэта апускаецца Ждановічам.

Паглядзім, наш кандрацьцевец, і тое, што «старое сялянства ня толькі «дыфэрэнцыруецца», яно зусім разбураецца, перастае існаваць, выцiскаецца зусім новымі тыпамі вясковага насельніцтва,— тыпамі якія зьяўляюцца грунтам грамады з пануючай таварнай гаспадаркай і капіталістычнаю вытворчасьцю. Гэтыя тыпы—вясковая буржуазія (пераважна дробная) і вясковы пролетарыят, кляса таваравытворцаў у земляробстве і кляса сельска-гаспадарчых наёмных рабочых» (Ленін, т. III, ст. 129—130).

Зразумела, што «прадпрыемныя здольнасьці» ёсьць здольнасьці вясковае буржуазіі,—здольнасьці кулакоў, а большага нічога і ня трэба апалёгету гэтых кулакоў—Ждановічу.

Змазваньне соцыяльных процэсаў праводзіцца Ждановічам яшчэ больш шырока ў славутай асаблівасьці гаспадара. Яму здаецца, «што ў пытаньнях рэорганізацыі гаспадаркі мы надаем вельмі малое значэньне гаспадарчым здольнасьцям гаспадароў» (ст. 24), а гэтыя-то «дзелавыя здольнасьці» Ждановіч і знайшоў у сялян абсьледванага ім раёну. У сьвінагадоўчых гаспадарках у якасьці гаспадара ён знаходзіць заўсёды добрага калькулятара, «які пільна ўлічвае прыёмы рацыяналізацыі вытворчасьці», у гэтых-жа гаспадарках добрыя машыны і заводзкія коні, а «гадоўля заводзкіх коняй, як і ўсялякае іншае заводзкае жывёлы, прад'яўляе вялікія запатрабаваньні да якасьці гаспадароў» (ст. 38). «Сялянства Случчыны, у параўнаньні

з другімі часткамі БССР, дае адносна найбольшы лік наведвальнікаў у ВНУ'ах» (ст. 25). Адным словам, усе дадатныя бакі з жыцьця сялянства (зноў-ткі наогул сялянства) Случчыны і абсьледваных гаспадарак тлумачацца прадпрыемнаю здольнасьцю гаспадароў. Няма «прадпрыемных здольнасьцяй», няма і жыцьця.

У гэтым, як і ў раней разабраных пытаньнях, Ждановіч займаецца перасьпевамі з буржуазных экономістых. Напрыклад, у Брынкмана па гэтым-жа пытаньні мы знаходзім больш выразныя формулёўкі. Так ён піша: «Узрастаючая інтэнсыўнасьць сельска-гаспадарчае вытворчасьці, да якой прымушае процэс разьвіцьця народнае гаспадаркі, пашыраецца не на ўсе прадпрыемствы з аднолькавай хуткасьцю і роўнамернасьцю, а на адных хутчэй, на другія больш павольна, у залежнасьці ад асабістых якасьцяй сельска-гаспадарчых прадпрыемцаў. Пры іншых роўных прыродных і рыначных умовах, сельска-гаспадарчы прадпрыемца, не адстаючы ад прогрэсу народнае гаспадаркі, звычайна вядзе гаспадарку ня толькі больш рацыянальна, але і інтэнсыўна, чым большасьць іншых прадпрыемцаў, якія ідуць за жыцьцём толькі павольна». (Экономические основы организации сельско-хозяйственных предприятий, ст. 4).

Розьніца ў ацэнцы ролі асабістасьці прадпрыемцы паміж Ждановічам і Брынкманым у тым, што ад няўдалае перафразіроўкі ў Ждановіча выпаў такі момант, як абмежаваньне ролі асабістасьці з боку прыродных і рыначных умоў, момант, які падае Брынкман. Але галоўнае, на што трэба тут зьвярнуць увагу, што агульна для Ждановіча і Брынкмана, гэта ёсьць змазваньне аналізу соцыяльна-экономічных фактараў, якія зьяўляюцца вызначальнымі ў даным выпадку, і пры роўнасьці якіх, разам з роўнасьцю іншых экономічных і прыродных умоў, можа праяўляцца і мець значэньне здольнасьць прадпрыемцы. Падобнае забываньне з боку Ждановіча соцыяльна-экономічных момантаў,—забываньне, якое мы констатавалі ўжо некалькі разоў, бязумоўна, не зьяўляецца выпадковым. Гэта ёсьць сьвядомае змазваньне соцыяльных супярэчнасьцяй, гэта ёсьць сьвядомая падмена ў нашых умовах эксплёатацыі і эксплёататарскіх тэндэнцый кулака, «прадпрыемнымі здольнасьцямі», стараннасьцю ды іншымі падобнымі выкрутасамі. Гэта ёсьць звычайная кулацкая ідэолёгія.

Тут цікава было-б паставіць перад кулацкай тэорыяй Ждановіча такое пытаньне: як ён разьмяркоўвае, згодна з сваёй тэорыяй мэха-

ністычна-конструкцыйнага аналізу, «прадпрыемныя здольнасьці» паміж рознымі соцыяльна-экономічнымі групамі сялянства?

Змазваньне соцыяльных момантаў у вёсцы не абмяжоўваецца Ждановічам вышэй разабранымі пытаньнямі, а ўпарта працягваецца далей. Прыцягнуты для гэтых мэт, з буржуазнага арсэналу, і так званы «закон убывающего плодородия», які формулюецца Ждановічам, як «гранічныя затраты». Ждановіч лічыць, што «пры вырашэньні пытаньняў організацыі гаспадаркі важны ня столькі сярэднія вытворчыя выдаткі, колькі гранічныя» (ст. 17).

Задача інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі, паводле Ждановіча, «зводзіцца да таго, каб вырашыць, ці магчыма, і калі магчыма, дык якім шляхам і да якое граніцы далейшае павялічэньне інтэнсіфікацыі» (стар. 24). «Задача гаспадара,—працягвае Ждановіч,—заключаецца ня толькі ў тым, каб знайсьці гранічны гектар зямлі, які яшчэ можа і павінен быць засеяны, напрыклад, бульбаю, але ён павінен таксама знайсьці гранічную дозу выдаткаў на гэтым гектары» (стар. 32). Нарэшце, Ждановіч лічыць, што «перад гаспадаркаю часьцей за ўсё паўстае пытаньне, ці магчыма, і калі магчыма, то да якое граніцы інтэнсіфікацыя жывёлагадоўлі» (стар. 36).

Гэты «закон», становячы сабою «безьзьмястоўную абстракцыю, якая пакідае ў баку самае галоўнае: узровень тэхнікі, стану вытворчых сіл» (Ленін, т. IX, ст. 46—47), пераціжоўваецца Ждановічам, каб тым самым адзначыць сваю, як кажа т. Пікус («На аграрным фронце» № 5, 1930 г.) «Ортодоксальность» буржуазного экономиста».

Гэты «закон» атрымаў выстарчальнае выкрыцьцё яшчэ з боку Маркса і Леніна. Вельмі добра ён разабраны проф. Г. С. Гарадзеевым у яго працы: «Основные проблемы с.-х. экономии» і т. Пікус («На аграрным фронце № 5, 1930 г.), якая ў досыць выпуклай форме прадставіла соцыяльнае значэньне гэтага «закону», а таксама прычыну таго, чаму гэты «закон», ня гледзячы на яго відавочную нікчэмнасьць, упарта пераціжоўваецца буржуазнымі экономістымі.

Мы тут ня будзем займацца пераказам, або проста перапіскай паказаных прац, а адсылаем зацікаўленых чытачоў непасрэдна да іх.

Пераказаўшы асноўныя палажэньні буржуазнае с.-г. экономії, змазаўшы соцыяльныя супярэчнасьці на вёсцы «агульным» сялянствам, яго «прадпрыемнымі здольнасьцямі» ды інш., а таксама перанёсшы мэханічна замежныя шаблёны разьвіцьця сельскае гаспадаркі з капіталістычных краін у БССР праз Случчыну і ў форме хутароў,

Ждановіч, пасьля разгледжанай намі ідэалізацыі даваенных умоў разьвіцьця сельскае гаспадаркі на Беларусі, пачаў сьпяваць песьні гэтым хутарам.

Ён констатуе, што з усіх абсьледваных ім гаспадарак, у організацыйна-вытворчых адносінах, на першым месцы «стаяць гаспадаркі з хутарскім зямлякарыстаньнем і бліжэйшыя ад рынку» (стар. 10). Паводле думкі Ждановіча, «хутары маюць больш магчымасьці організаваць пашу, а значыцца, рашучай можа пайсьці па шляху ліквідацыі папару» (стар. 30). «Засеўная плошча пад канюшынаю ў гаспадарках № 1, 2 і 3 з хутарскім зямлякарыстаньнем, куды вышэй (каля 25%), чымся ў астатніх гаспадарках» (стар. 31). «Гаспадарка № 2 (хутар—*С. М.)*—прадала канюшыннага насеньня на 96 руб., а гаспадарка № 3 (хутар—*С. М.)*—на 360 руб.» (стар. 32, 33). Ждановіч констатуе «вялікую капіталазабясьпечанасьць абсьледваных гаспадарак», у якіх «ізноў-жа і ў гэтых адносінах на першым месцы стаяць хутарскія гаспадаркі» (стар. 43). Хутарскія гаспадаркі маюць «большую ўраджайнасьць» і г. д. І, нарэшце, яшчэ раз пакрэсьліваецца, што па шляху рацыянальнай інтэнсіфікацыі «далей усіх пайшлі гаспадаркі, распалажаныя бліжэй ад Слуцку, з іх—з хутарскім зямлякарыстаньнем» (стар. 39).

Хутары, гэта адзіная шчыліна, праз якую бачыць сьвет Ждановіч. Праца, якая выдана ў 1929 г., ня мае ні слова аб іншым шляху нашае вёскі, ні слова аб соцыялістычнай яе перабудове; саўгасы і калгасы зьнiклі за хутарамі. Можна падумаць, што чытаеш ня твор, выданы ў 1929 годзе, а што гэта—«Наша Ніва» 1909 г., якая ў той час, усьлед за Сталыпіным, крычала: «Хутары—найлепшы ратунак для нашае вёскі». Як бачым, і тут паўтарэньне задоў. Але гэта для Ждановіча нічога. Ён, як відаць, трымаецца тае думкі, што ўсё сказанае з сур'ёзным відам—сур'ёзна.

Расхваліўшы хутары і іх даваенныя ўмовы разьвіцьця на Беларусі, а таксама даваенныя ўмовы разьвіцьця «прадпрыемных здольнасьцяй гаспадароў», Ждановіч з горкаю жалабою зазначае, што «пры адпаведных умова« (?) Случчына магла-б у першую чаргу зрабіцца дастаўнікам сэлекцыйнага насеннага матэрыялу ня толькі канюшыны, але і іншых расьлін. Тое-ж самае і ў адносінах да заводзкае сьвінагадоўлі і конягадоўлі» (стар. 32), але... якая бяда! Умоў гэтых, паводле Ждановіча, няма, бо «павялічэньне-ж магчымасьцяй працаінтэнсыўнасьці, за лік найму рабочае сілы ў сучасных прававых умовах

фактычна абмежавана, бо наём гаспадаркаю рабочае сілы звычайна зьвязаны з залічэньнем гэтае гаспадаркі ў кулацкія, з усімі вынікамі, якія выцякаюць адгэтуль» (стар. 44).

Гэта ёсьць звычайная скарга Кандрацьцева і яго вучняў на ўціск «крэпкіх хазяев». Гэты тып экономістых даволі правільна і ярка характарызуе т. А. Леонцьеў, які кажа: «Належнае вырашэньне карэнных пытаньняў сельскае гаспадаркі—гэта, з іх пункту погляду, поўнае зьняцьцё ўсіх рагатак і абмежаваньня, якімі Савецкая ўлада змагаецца супроць росту эксплёататарскіх магчымасьцяй кулацтва. Належнае вырашэньне ўяўляецца ім у выглядзе поўнай свабоды разьвіцьця капіталістычных адносін у вёсцы. Пры гэтым належным вырашэньні дзяржава павінна нават заахвочваць капіталістычныя элемэнты сельскае гаспадаркі, бо якраз рост гэтых элемэнтаў малюецца, як неабходная перадпасылка і адзіная ўмова разьвіцьця таварнасьці гаспадаркі, росту ўкладаў у крэдытную сетку, разьвіцьця «жывой коопэрацыі», ліквідаваньне гаспадарчых труднасьцяй, росту экспортных магчымасьцяй, наогул росту і разьвіцьця вытворчых сіл у самым шырокім сэнсе гэтага слова». (Социалистическое строительство и его критики, ст. 160).

Ждановіч сьвядома і ўпарта выканаў усё, што ад яго залежала па перасьпевах і аднаўленьню, ва ўмовах БССР, старых гутарак сваіх настаўнікаў,—расійскіх кандрацьцеўцаў, для таго, каб паказаць сваю «ортодоксальность» у належнасьці да школы гэтых кулацкіх ідэолёгаў. Вось у асноўным сыстэма поглядаў нашага беларускага Кандрацьцеўца. Рэшта пытаньняў з яго працы былі ўжо расшыфраваны ў рэцэнзыі т. Пінчука («На аграрным фронце» № 9, за 1929 г.) і таму мы над імі спыняцца ня будзем. Будучы ў асноўным згодны з адзначанай рэцэнзіяй, я хачу толькі падкрэсьліць у ёй адно, на маю думку зусім няправільнае месца. Гэта, калі т. Пінчук кажа: «Ня бачучы нічога асаблівага ў савецкай гаспадарчай сыстэме ў параўнаньні з звычайнай буржуазнай гаспадаркаю, аўтар робіць устаноўку на капіталістычнае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі» і г. д. (Паказаная часопісь ст. 134).

Мы ўжо бачылі з вышэй разгледжанага, што сыстэма поглядаў Ждановіча, не становячы сабою нічога новага, ёсьць сьвядомае дапушчэньне да сьветапогляду тэорыі кулацкай ідэолёгіі, а яго праца—сьвядомая конкрэтызацыя гэтых поглядаў ва ўмовах БССР. Ня бачыць гэтага і ня ставіць іменна так пытаньне ні ў якім разе

нельга, бо тым самым мы прапусьцім самае галоўнае—політычны сэнс усіх гэтых разважаньняў кандрацьцеўшчыны, іх клясавую сутнасьць.

Тым больш ня можна прапушчаць гэтых момантаў цяпер, калі беларуская кандрацьцеўшчына, будучы прыцiснута належным чынам да сьцяны, сама імкнецца тлумачыць свае «памылкі», або «няўдалымі выразамі», або і проста «няпісьменнасьцю». Што «тэорыі» беларускіх кандрацьцеўцаў зьяўляюцца няўдалымі з-за няпісьменнасьці, з гэтым мы ахвотна згаджаемся, а што гэтыя «тэорыі» падносяцца сьвядома,—для нас абсолютна ясна.

Зразумелы для нас і соцыяльныя карэньні гэтых «тэорый». Апошнія апушчаюцца ў тое клясавае змаганьне, якое адбываецца ў сучаснай вёсцы навакол соцыялістычнае яе перабудовы. Рад гадоў правапортуністычнае практыкі НКЗ БССР—«прышчэпаўшчыны» па насаджэньні хутароў, адрубоў і дробных пасёлкаў, па разьвязаньні «прадпрыемных здольнасьцяй» ды ініцыятывы хутаран, а таксама агульны ўздым экономічнага стану пасьлярэволюцыйнай вёскі з яе дыфэрэнцыяцыяй, узмоцненай політыкаю «прышчэпаўшчыны», нарадзіў вясковую буржуазію—кулацтва, якое пачало ставіць свае затрабаваньні. Апошнія праўляюцца і абараняюцца як у практыцы колгаснага будаўніцтва, так і ў тэорыі аграрнага пытаньня. Непасрэднае змаганьне з соцыялістычнымі элемэнтамі вёскі за капіталістычныя шляхі разьвіцьця апошняй узялі на сябе кулакі-практыкі, а будаўніцтвам тэорыі гэтага змаганьня,—будаўніцтвам кулацкае ідэолёгіі заняліся кулакі-тэорэтыкі: Ждановічы, Лайковы, Кісьляковы ды інш. беларускія кандрацьцеўцы.

Такавы соцыяльныя карэньні разабранае намі вышэй «тэорыі». Пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва ў сельскай і народнай гаспадарцы СССР і БССР, выкарчоўваньне карэньняў капіталізму з экономікі нашага краю, уздым матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных мас гораду і вёскі, узрост пролетарскіх навуковых кадраў і ўзмацненьне пролетарскай культуры наогул,—усё гэта сьцірае на сваім шляху кандрацьцеўшчыну, пачынаючы з яе карэньняў і канчаючы яе пладамі.

---

## ЯШЧЭ АБ АДНЫМ БЕЛАРУСКІМ КАНДРАЦЬЦЕЎЦЫ[1]).

Далей мы пераходзім да разгляду адзначанага раней «навуковага» твору яшчэ аднаго з беларускіх кандрацьцеўцаў—М. Лайкова,—твору, які завецца: *«Нарыс па грамадзкай агрономіі Беларусі»*.

Аўтар гэтае працы «ўзбагаціў» за апошні год (1929) Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва радам выданьняў у галіне популярнае і навуковае літаратуры па экономіцы сельскае гаспадаркі. Апрача таго, ім надрукавана шмат артыкулаў у расійскіх і беларускіх часопісах па пытаньнях аградапамогі ды інш. Літаратурнай пладлівасьці М. Лайкова можа зьдзівіцца і пазайздросьціць кожны з удзельнікаў навучальнае і навукова-дасьледчае працы ў галіне экономікі земляробства. Але, разам з гэтым, мімаволі паўстае пытаньне: ці не перашкаджае падобная форсіраваная фабрыкацыя твораў іх якасьці?

Пастаноўка падобнага запытаньня тым больш законна, што творы М. Лайкова прэтэндуюць і часткова выходзяць пад шыльдаю навукова-дасьледчых прац, а сваёй мэтаваю ўстаноўкаю даюць абгрунтаваньне даволі важным організацыйным і аграрна-політычным мерапрыемствам НКЗ, як: прынцыпы і організацыйныя формы аградапамогі (тэорытычнае ўгрунтаваньне сутнасьці савецкае грамадзкае агранаміі і г. д.).

Каб здаволіць гэтую зусім законную і патрэбную цікаўнасьць, спынімся на аднэй з найбольш аб'ёмістых і найбольш сур'ёзнай працы М. Лайкова,—працы, якая ў падрадкавых дужках носіць гучную назву: «Прынцыповыя падставы, гісторыя, організацыйныя формы і зьмест работы агрономаў». Гэтая праца падзяляецца на наступныя часткі:

[1]) Гэты нарыс становіць сабою папраўленую і крыху зьмененую рэцэнзію, якая была надрукавана ў часоп. „Бальшавік Беларусі" за 1929 г. № 10—12 пад назваю: „Супроць беларускае кандрацьцеўшчыны".

1. Уступ (прынцыповыя падставы і тэорытычнае ўгрунтаваньне сутнасьці савецкае грамадзкае агрономії);

2. Кароткі гістарычны нарыс агрономічнае організацыі БССР;

3. Да гісторыі разьвіцьця дасьледчае працы ў галіне агродапамогі і характарыстыка сабранага матэрыялу;

4. Кароткая характарыстыка агрораёну ў БССР;

5. Склад агропэрсоналу дасьледваных раёнаў;

6. Якія формы агрономічнае організацыі існуюць у БССР і структура агрономічнага апарату;

7. Галоўныя рыскі кірунку работы агрономаў раёну і асноўныя фактары, якія ўплываюць на зьмест работы.

Далей ідуць вывады і, як дадатак, прыкладзены табліцы, якія займаюць каля 50 старонак працы. Паколькі кожная з пералічаных частак мае сваю тэматыку і асаблівасьці, мы лічым найбольш рацыянальным весьці разгляд працы, прыстасоўваючыся да яе паасобных частак.

Першая частка працы зьяўляецца паводле зьместу закранутых пытаньняў найбольш адказнаю, бо ў ёй разглядаюцца «прынцыповыя падставы» і робіцца «тэорытычнае ўгрунтаваньне сутнасьці савецкае грамадзкае агрономії». Праўда, прынцыповыя падставы і тэорытычныя ўгрунтаваньні М. Лайкова зьяўляюцца надзвычайна прымітыўнымі. Так, напрыклад, разглядаючы пытаньне сувязі індустрыі з сельскаю гаспадаркаю, аўтар кажа: «Такім парадкам, для кожнага зразумела, што тэмп разгортваньня індустрыялізацыі краіны, гэтага падмурку соцыялістычнае гаспадаркі, ня можа быць пасьпяховым без узмацненьня продукцыі с/г сэктару—*сыравіннае базы* (падкрэсьлена мною—*С. М.*) буйнае прамысловасьці» (ст. 3). Па-першае, чаму буйнае прамысловасьці?—запытаемся мы, а, па-другое, разглядаць сельскую гаспадарку, як толькі «сыравінную» базу для прамысловасьці, бязумоўна, памылкова, або сьвядома няправільна, бо сельская гаспадарка зьяўляецца адначасова і рынкам збыту. Яшчэ больш няправільным зьяўляецца тое, што М. Лайкоў, падкрэсьліваючы залежнасьць разьвіцьця прамысловасьці ад сельскае гаспадаркі, *зусім ня бачыць адваротнае залежнасьці,—разьвіцьця сельскае гаспадаркі ў зьвязку з разьвіцьцём прамысловасьці*. Якраз сучасны стан земляробства, калі адбудоўчы пэрыод у асноўным скончаны, калі мы прыступілі да соцыялістычнае рэконструкцыі нашае гаспадаркі на грунце новае тэхнікі, знаходзіцца ў надзвычай вялікай і відавочнай залеж-

насьці ад разьвіцьця прамысловасьці. Асноўную ролю ў рэканструкцыі адыгрываюць машыны ды іншыя сродкі вытворчасьці, колькасьцю якіх абумоўлены тэмпы рэканструкцыі земляробства ды яго разьвіцьцё, а колькасьць машын ды іншых сродкаў вытворчасьці абумоўлена, у сваю чаргу, разьвіцьцём прамысловасьці. Таму індустрыялізацыя краіны зьяўляецца вызначальнаю перадпасылкаю соцыялістычнае рэканструкцыі земляробства, перадпасылкаю ўздыму яго на больш высокую ступень разьвіцьця. Ня бачыць гэтае залежнасьці разьвіцьця сельскае гаспадаркі ад разьвіцьця прамысловасьці можа толькі чалавек нявылечна хворы на кулацкую буржуазную абмежаванасьць.

Другою, ня менш грубою памылкаю М. Лайкова, зьяўляецца такое разважаньне: «Па колькі *грамадзкасьць у савецкай сыстэме неадлучальна ад дзяржаўнасьці* (падкрэсьлена мною—С. М.), пастолькі аграномічная арганізацыя зьяўляецца дзяржаўным апаратам у сыстэме зем'органаў і аграном зьяўляецца непасрэдным выканаўцам сельска-гаспадарчае палітыкі на вёсцы» (стар. 20). Выводзіць падобную залежнасьць па меншай меры зьяўляецца дзіўным. Няўжо-ж «грамадзкасьць у савецкай сыстэме неадлучальна ад дзяржаўнасьці»? Нам здаецца, што гэта звыш меры дэмократычная ілюзія,—ня больш, ня менш,—ілюзія, якая несумяшчальна з савецкаю дзяржаўнасьцю, як дыктатураю пролетарыяту, якая неадлучальна толькі ад пролетарскае грамадзкасьці. Тым больш гэта дзіўна, што сам М. Лайкоў, на старонцы 60-й гэтае-ж самае працы, разглядаючы соцыяльнае паходжаньне беларускае агрономіі, знаходзіць «склад агропэрсаналю, вельмі *дэклясаваным*» (падкрэсьлена мною—С. М.).

Мы, вядома, ня згодны з М. Лайковым у аднясеньні агрономаў да дэклясаванага элемэнту і лічым гэта грубым непаразуменьнем з пункту погляду нават элемэнтарнае палітграматы. Але-ж гэтае непаразуменьне яшчэ больш становіцца недапушчальным, калі ўсе соцыяльныя групоўкі, якія ёсьць у краіне Саветаў, а тым больш «дэклясаваныя», Лайкоў робіць такою грамадзкасьцю, якая неадлучальна ад савецкае дзяржаўнасьці. Вось якое вызначэньне М. Лайкова сутнасьці савецкае грамадзкае агрономіі.

Падобнае-ж вострае, хоць і няпісьменнае, разважаньне мы спатыкаем у М. Лайкова і па пытаньні «абгрунтаваньня» ўвагі Савецкае ўлады да сельскае гаспадаркі. Так, ён піша: «Што ўзмацненьне ўвагі да сельскае гаспадаркі і арганізацыя агрoдапамогі насельніцтву шчыльна зьвязаны паміж сабою, няма чаго і гаварыць, падмацаваньне

гэтага палажэньня мы знаходзім у гістарычных фактах». ...«сама ідэя організацыі агродапамогі насельніцтву ў Расіі выклікана такімі ліхамі як неўраджай, голад, шкоднікі і г. д.».

...«Неўраджай і голад прымусілі старую царскую ўладу паклапаціцца аб інтарэсах сельскае гаспадаркі» (стар. 5—6). І потым ідзе гістарычнае параўнаньне: «І вось цяпер, *калі Савецкая ўлада прызнала* (падкрэсьлена мною—*С. М.)*, што тэмп росту і павышэньне ўраджайнасьці вельмі слабы, што агуловая продукцыя с.-г. сэктару ня можа цалкам забясьпечыць пасьпяховае разьвіцьцё соцыялістычнае гаспадаркі, проблема хутчэйшага падвышэньня ўраджайнасьці пастаўлена перад савецкай грамадзкасьцю ва ўсю велічыню» (стар. 11).

Як бачыце, знак роўнасьці паміж прычынамі ўвагі да ўздыму земляробства царскаю і Савецкаю ўладамі гістарычна ўгрунтаваны. Там сельска-гаспадарчы занятад і тут тое-ж самае. На нашу думку, з гэтых разважаньняў выглядае нішто іншае, як паршывенькая філёзофія «дэградацыі», якая ў свой час разьвівалася Кандрацьцевым і К°, а цяпер перасьпеўваецца і страшэнна няўдала «тэорытычна» і «гістарычна» ўгрунтоўваецца Лайковым.

Гэтая тэорыя дэградацыі, зьяўляючыся ідэолёгічным афармленьнем рэакцыйных імкненьняў кулацкае часткі вёскі, кладзецца М. Лайковым у аснову ўсіх сваіх далейшых разважаньняў. Для таго-ж, каб яе можна было наогул популярызаваць, яна апранаецца ў вопратку рэволюцыйнае фразэолёгіі, як, напрыклад, «соцыялістычнае будаўніцтва», «савецкая грамадзкасьць» і г. д. Апроч таго, яна затуманена рознага роду выключна штучнымі дыскусіямі з рознымі «вузкімі» спэцыялістымі ў такім духу, што прыпісваецца ім (з большага безасобавым) заведама памылковая прымітыўная думка, а потым разьвіваецца самым падрабязным чынам абвяржэньне гэтае думкі. Спрачаецца Лайкоў і з «аднабокімі» экономістымі, якія бачаць шляхі ўздыму ўраджайнасьці «ў мерапрыемствах экономічнае палітыкі», спрачаецца і з «тэхнічным ухілам» спэцыялістых, якія «звужаюць гэтую проблему да таго ці іншага тэхнічнага прыёму гаспадараньня» (стар. 4). Нарэшце, робяцца вынікі гэтым спрэчкам у духу таго, што «трэба гаварыць не аб паасобных «эфэктыўных прыёмах», а аб комплексе мерапрыемстваў, накіраваных на рэорганізацыю сельскае гаспадаркі» (стар. 5).

Што гэта за комплекс мерапрыемстваў, якія мае на ўвазе М. Лайкоў у якасьці выражэньня проблемы ўздыму ўраджайнасьці і про-

дукцыйнасьці сельскае гаспадаркі, мы адразу і гэтак проста ад яго не пачуем, ён падае гэты комплекс крыху пазьней і падае за такой-жа фразэолёгіяй і туманам, як і дэградацыю. Але ня будзем перабіваць сыстэмы разважаньня М. Лайкова і мы і дамо яму выказацца поўнасьцю, а затым пагаворым аб яго «комплексе мерапрыемстваў», як шляху выхаду земляробства з тае «дэградацыі», у якую завёў яго ў сваім уяўленьні апалёгет вясковае буржуазіі М. Лайкоў.

Перамешвае М. Лайкоў свае рэакцыйныя думкі і такімі «таўтолёгічнымі аксыомамі самае пустое безьзьмястоўнасьці», як разважаньне на тэму таго, што «з бегам гістарычнага часу ўсё мяняецца і набывае ўсё новыя і новыя формы, то лепшыя, то горшыя, у залежнасьці ад таго, як організавана само жыцьцё» (стар. 8). Як гэтыя развагі нагадваюць «доброжелателя» Кузьму Пруткова!

Але-ж уся гэтая пруткоўшчына, або лайкоўшчына выконвае пэўную ролю. *Яна пушчае пыл у вочы непадрыхтаванаму чытачу сваёю паказною радыкальнасьцю і вучонасьцю, працягвае адначасова рэакцыйную думку кулацтва, аб дэградацыі земляробства, як выніку зямельнае палітыкі Савецкае ўлады.* Вось выходная тэорытычная пазыцыя М. Лайкова.

Пра самую тэорыю «дэградацыі», вушы якое так добра прасьвечваюць праз фразэолёгію М. Лайкова і якая выяўляецца ў далейшым яшчэ больш выразна, дастаткова напісана і сказана, а таму мы над ёю спэцыяльна спыняцца ня будзем. Мы толькі пакажам, што і самі «гістарычныя факты», якія павінны апраўдаць гэтую тэорыю, зьяўляюцца спэцыяльна прыстасаванымі.

Па-першае, паколькі М. Лайкоў вядзе гутарку аб агродапамозе з часоў царызму, якая «была накіравана на абарону абшарніцкіх інтарэсаў», зьяўляецца няправільным тое, што гэтая агродапамога зьявілася толькі ў XIX стагодзьдзі (1883 г., з яго слоў), мы маем яе першыя крокі яшчэ ў XVIII стаг., але гэта паміж іншым.

Па-другое, што як «не ламаньне ў адчыненыя дзьверы» становіць сабою разважаньне М. Лайкова аб тым, што «Савецкая ўлада прызнала» адсталасьць сельскае гаспадаркі? А калі-ж гэта Савецкая ўлада адмаўляла адсталасьць нашае сельскае гаспадаркі? Няўжо на гэтае прызнаньне Савецкую ўладу навялі разважаньні дэградатаўлайковых? Гэта проста паклёп, бо абвінаваціць Савецкую ўладу ў адсутнасьці належнае ўвагі да сельскае гаспадаркі ня здолеў і ня здолее М. Лайкоў. Гэты паклёп прыдуманы для таго, каб лепш пад-

сунуць тэорыю дэградацыі. Даведзеным зьяўляецца толькі адно, што Лайковы ня хочуць і ня могуць зразумець тае політыкі ўзаемазалежнасьці разьвіцьця прамысловасьці сельскае гаспадаркі, якую праводзіць Савецкая ўлада соцыялістычнай рэконструкцыяй народнае гаспадаркі.

Побач з гэтымі развважаньнямі і ўгрунтаваньнямі, разам з вёдрамі кракадзілавых сьлёз, праз цэлую сыстэму, у тым ліку і «гістарычных», фактаў і прыёмаў М. Лайкоў імкнецца давесьці патрэбнасьць прызнаньня за ім навуковага піонэрства і цэнтру па дасьледваньню, распрацоўцы і ўгрунтаваньню сыстэмы і мэтодаў агродапамогі на БССР.

І паколькі М. Лайкоў бесцарамонна робіць сябе гістарычным цэнтрам вывучэньня агродапамогі, мы павінны з такою-ж бесцарамоннасьцю адхіліць падобныя спробы, папярэдзіўшы аб гэтым грамадзкасьць.

Другі разьдзел працы М. Лайкова таксама не пазбаўлены фразэолёгічнага туману. Пэўна ўжо і мова Лайкову далася на тое, каб захоўваць свае думкі. Тут мы знаходзім зусім супроцьлеглую ацэнку дарэволюцыйнае агрономіі на Беларусі ў параўнаньні з данай ёй ацэнкай у першым разьдзеле. Так, на старонцы 14 першага разьдзелу чытаем: «Грамадзкая агрономія ў большасьці была процілеглай існуючай так званай сталыпінскай с.-г. політыцы», а на стар. 24 другога разьдзелу ўжо адзначаецца: «што гэтая (дарэволюцыйная— *С. М.*) агрономія працавала ня дрэнна. Агрономы не займаліся канцылярскай пісанінай і балбатнёю, а займаліся *выключна гаспадарчым упарадкаваньнем хутаран*» (падкрэсьлена мною—*С. М.*).

Тут ужо ніяк ня можна згадзіцца з Кузьмою Прутковым у тым, што «пояснительные выражения об'ясняют темныя мысли», хутчэй, наадварот: «темные мысли» старанна захоўваюцца «пояснительными выражениями».

Калі паданыя думкі зьмяшчаюць нібы толькі наіўную супроцьлегласьць, то далей патайное становіцца яўным. Лайкоў пачынае проста захапляцца работаю дарэволюцыйнае агрономіі. Ён піша: «Сьляды іхнае работы і да гэтага часу захаваліся ў выглядзе *культурных гаспадарак хутаран* (падкрэсьлена мною—*С. М.*), якія і да гэтага часу, як і дасьледчыя ўстановы (!) сьведчаць аб магчымасьцях дасягненьня іншых (?) гаспадарчых вышынь».

Вось аб чым марыць наш кандрацьцевец і ня ў меншай меры прутковец Лайкоў. «Іншыя гаспадарчыя вышыні» ў выглядзе «культурных гаспадарак хутаран» вось ідэал Лайкова. Зразумелым становіцца пасьля гэтага і той комплекс мерапрыемстваў, на які ківаў раней Лайкоў, калі ён спрачаўся з «вузкімі» спэцыялістымі. Гэта называецца «біць асла, а мець на ўвазе каня». Пасьля гэтага можна ўжо падвесьці некаторыя вынікі разважаньням Лайкова. А вынікі гэтыя наступныя:

1. Пад шумок гучных выразаў Лайкоў падсунуў чытачу разрыў прамысловасьці з сельскаю гаспадаркаю і паставіў разьвіцьцё прамысловасьці ў поўную залежнасьць ад разьвіцьця сельскае гаспадаркі, з чыста кулацкаю абмежаванасьцю, не адгукнуўшыся ніводным словам аб адваротнай залежнасьці;

2. Пад шумок рэволюцыйнае фразэолёгіі Лайкоў падсунуў чытачу «дэградацыю» сельскае гаспадаркі, падмазаўшы гэта для прывабнасьці нейкім «прызнаньнем яе адсталасьці» з боку Савецкае ўлады і, нарэшце.

3. Пад шумок спрэчак з рознымі «вузкімі» спэцыялістымі, Лайкоў падсунуў чытачу «комплекс мерапрыемстваў аграрнае і экономічнае політыкі «ў сынтэтычнай форме» *культурных гаспадарак хутаран*».

Гэты комплекс, на яго думку, цалкам вырашае і проблему падняцьця вытворчасьці, і проблему агульнага ўздыму сельскае гаспадаркі.

*Атрымліваецца такім чынам закончаная контррэволюцыйная програма рэстаўрацыі капіталістычнага ладу ў земляробстве нашае краіны. Атрымліваюцца тыя «іншыя вышыні», аб якіх сьведчаць «культурныя гаспадаркі хутаран». Такім чынам, ва ўсёй сваёй велічы вымалёўваецца адзін з ідэолёгічных слупоў, адзін з угрунтавальнікаў тае шкоднае політыкі былога НКЗБ, якая атрымала назву «прышчэпаўшчыны» і конкрэтызавалася ў насаджэньні, пры зямляўпарадкаваньні—хутароў, адрубоў і дробных пасёлкаў.*

Жыцьцё разьбіла гэтую контррэволюцыйную тэорыю і практыку беларускіх кандрацьцеўцаў. Вялізная маса сялянства пачала ўздымаць сваю гаспадарку ня шляхам беларускіх кандрацьцеўцаў, які нямінуча прывёў-бы гэтыя гаспадаркі да масавага разбурэньня серадняко̆ў і беднаты і да росту нязначнае кучкі кулакоў, а шляхам Комуністычнай партыі Беларусі, шляхам соцыялістычнае рэконструкцыі праз

саўгасы, колгасы і больш простыя формы вытворчае коопэрацыі, які зьяўляецца сапраўдным выхадам са стану экономічнае і культурнае адсталасьці, які зьяўляецца шляхам сапраўднага ўздыму земляробства на больш высокі ўзровень.

Але мы крыху адхіліліся. Зьвернемся зноў да Лайкова. Наладзіўшы сыстэму пажаданага разьвіцьця земляробства, зрабіўшы закід сучаснай агрономіі ў тым, што яна займаецца толькі «канцылярскай пісанінай і балбатнёю» і паставіўшы ў прыклад работу дарэволюцыйнае агрономіі, *М. Лайкоў констатуе організацыйную схэму далейшай працы грамадзкае агрономіі, прыстасоўваючыся выключна да капіталістычнага разьвіцьця вёскі ў форме індывідуальных гаспадарак з хутарскою, адрубною і г. д. формамі землякарыстаньня.*

Тут мы, сьледам за Лайковым, зробім маленькае адхіленьне, а затым пагаворым і аб яго організацыйных формах грамадзкай агрономіі.

Наступных 3-х разьдзелаў працы М. Лайкова мы ўжо крыху дакраналіся. Адзначым толькі, што разьдзел гісторыі дасьледчае працы ў галіне агродапамогі пэўна ўведзены Лайковым спэцыяльна для таго, каб зрабіць з сябе, як ужо вышэй адзначана, гістарычна-дасьледчы цэнтр. На кожны факт у працы гэтага кірунку, якога даводзілася дакранацца Лайкову, робіцца націск, як на «гістарычны дакумант». Усюды «навязчивое самовосхваление. Всюду торжество (Лайкова) по поводу установленного и выработанного (Лайковым)». Але тут, як і ў ранейшых разьдзелах, не абмінуты «інтрыганы». Чамусьці так здараецца, што дзе толькі спыніўся Лайкоў, там адразу зьяўляюцца і «інтрыганы». У лік-жа гэтых «інтрыганаў» М. Лайкоў залічае ўсіх, хто перашкаджае яму і К° праводзіць іх шкодную ідэолёгію, якая па няўклюднасьці ажыцьцяўленьня відавочна амаль кожнаму і таму спатыкае шмат «інтрыганаў».

З горкімі сьлязьмі Лайкоў апавядае падрабязна аб сваіх пачуцьцёх, як «раптам увесну 1927 г. катэдра Агродапамогі (пры БДСГА— *С. М.*) была скасавана», як «бадзяўся» сабраны «матэрыял разам з ім, пакуль Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут не прытуліў іх і ня даў магчымасьці матэрыял распрацаваць і літаратурна аформіць» (стар. 42). Так, «не без добрых душ на свете» нават і для Лайкова. А дарэмна ўсё-ж такі НДІ даваў так шмат часу для афармленьня шкоднае блытаніны М. Лайкова.

Выключна мэханічны падыход, зроблены Лайковым пры разглядзе структуры агрономічнае організацыі ў БССР, нарадзіў аж дзесяць

розных схэм. Калі-ж сур'ёзна прыглядзецца да гэтых схэм, то паміж імі і розьніцы асаблівае няма, напрыклад, якая па сутнасьці розьніца паміж схэмамі № 6 і № 7. Або № 4 і № 5, №№ 1, 2 і 3? Трэба толькі дадаткова зьявіцца на раён яшчэ аднаму памоцніку агронома, або спэцыялістаму і ў Лайкова ўжо новая схэма. А што дае такая схэма? На нашу думку, яна проста нічога не дае.

Пераходзячы да крытыкі існуючых арганізацыйных форм грамадзкае агрономіі, М. Лайкоў становіцца ў позу безагаворачнае абароны ідэі вучастковае агрономіі і, як толькі можа, імкнецца давесьці няпрыдатнасьць раённае спэцыялізаванае агрономіі. Усе мотывы сваіх праціўнікаў ён лічыць мотывамі «проблематычнага зьместу, з лексыкону спэцаўскіх разважаньняў» і аўторытэтна, на падставе папярэдніх «абгрунтаваньняў», разважае: «Савецкі агроном закліканы для рэорганізацыі сялянскіх гаспадарак, а яшчэ ніхто не давёў (і нават ня чуваць такіх мотываў), што рэорганізаваць гаспадарку магчыма шляхам палепшаньня паасобных галін сельскае гаспадаркі», «нельга *адначасова* (падкрэсьлена мною—*С. М.*) ісьці ў гаспадарку селяніна з цэлаю групаю спэцыялістых, па ўсіх спэцыяльнасьцях» ды інш. у тым самым стылі.

Пераканаўчасьць гэтых мотываў траціцца пры першым-жа падыходзе да іх. Па-першае, раз няма мотываў аб рэорганізацыі гаспадаркі з паасобных галін, дык чаго-ж тады з гэтым спрачацца?

Нам хацелася-б ведаць, як будзе Лайкоў праводзіць рэорганізацыю гаспадаркі без рэорганізацыі яе галін? Па-другое, даць рэорганізацыйную схэму, што зробіць зноў-ткі толькі організатар спэцыялісты, яшчэ не абазначае зрабіць рэконструкцыю гаспадаркі. Апошняя работа вымагае дакрануцца паасобных галін, як-бы гэта дзіўна і «парадоксальна» ня было для Лайкова, і дакрануцца даволі дэталёва. Менавіта рэконструкцыя гаспадаркі вымагае спэцыялізаванае агрономіі. Калі-ж М. Лайкоў баіцца, што ўсе спэцыялістыя разам папруцца да селяніна і тым самым напужаюць яго, дык гэта проста вынік лёгічнае недарэчнасьці. Можна параіць Лайкову пасылаць спэцыялістых па аднаму.

Гэтым самым мы ня зьбіраемся адмаўляць значэньне энцыклёпэдычнае агрономіі, якая будзе яшчэ некаторы пераходны час адыгрываць вялікае значэньне ў тэхнічнай рэорганізацыі індывідуальных сялянскіх гаспадарках. Мы хочам толькі сказаць, што надаваць ёй пераважнае значэньне і тым больш пэрспэктыву можна толькі тры-

маючыся капіталістычнага разьвіцьця вёскі, што якраз цалкам увязваецца з агульнаю концэпцыяю М. Лайкова, але далёка ад сапраўднага жыцьця. Сучасная вёска ідзе хуткімі крокамі па шляху соцыяльна-экономічнае і тэхнічнае рэконструкцыі і чым больш захоплена вёска гэтым процэсам, тым менш застаецца месца для дзейнасьці унівэрсальнае агрономіі. Ва ўмовах-жа калі трэба ісьці не да аднаго селяніна, а да вялізных колектываў, на базе ўсё ўзмацняемае тэхнікі і падзелу працы, ад якіх зусім неадлучальна глыбокая спэцыялізацыя, лайкоўскі унівэрсал зусім ня вытрымлівае крытыкі. У такіх умовах унівэрсал— зусім пустое месца, а канцылярыя, якая па даных самаго-ж Лайкова,— найбольш зрастаецца з унівэрсалам, ня зьмесьціць усіх гэтых кадраў.

З гэтага-ж пункту погляду зусім дарэмнаю тратаю энэргіі зьяўляецца разьдзьмутая Лайковым дыскусія па пытаньні аб «формах агрономічнае організацыі». Зусім ясна, што вырашэньне пытаньняў інтэнсіфікацыі працы агрономаў можа ісьці толькі ў кірунку памяншэньня ліку абслугоўваных об'ектаў і што агрономія павінна быць комплекснаю з пэрспэктываю на яе поўную спэцыялізацыю.

Мэханістычны спосаб думкі беларускага кандрацьцеўца Лайкова, які (спосаб), як мы бачылі раней, уласьцівы ўсім «вучоным» гэтае катэгорыі, зусім ня можа ўцяміць таго, што соцыялістычная рэконструкцыя (а не наогул рэконструкцыя, як гэта змазваецца Лайковым) сельскае гаспадаркі патрабуе да сябе такіх комплексных мерапрыемстваў, якія пабудаваны на вузка-спэцыяльным аналізе і, у сваю чаргу, вымагаюць спэцыялізаванае іх рэалізацыі ня толькі ад агронома, але і ад звычайнага рабочага. Апошнім і тлумачыцца тая вострасьць і актуальнасьць пытаньня аб кадрах у сельскай і наогул народнай гаспадарцы, якую мы цяпер наглядаем і імкнемся рознымі шляхамі (тут зноў такі незразумелы Лайкову комплекс мерапрыемстваў для вырашэньня пытаньня спэцыялізацыі) як мага хутчэй вырашаць.

Разглядаючы «асноўныя фактары, якія ўплываюць на зьмест работы» агрономаў, М. Лайкоў робіць такі вынік, што «з павялічэньнем колькасьці паселішч на аднаго агроработніка, якое азначае павялічэньне ліку *дробных паселішч* (падкрэсьлена мною—*С. М.*) перад агрономамі павялічваюцца магчымасьці непасрэднай работы па гаспадарчым упарадкаваньні гаспадаркі і наадврот» (стар. 99). І далей: «асабліва эфэктнае павялічэньне штату ў раёнах з больш дробнымі

паселішчамі» (стар 103). Калі прыняць пад увагу папярэднюю песьню ў гонар «культурных гаспадарак хутаран», то зробіцца зусім пэўным, што разумее аўтар пад «дробнымі паселішчамі». Гэта ёсьць даволі выразнае імкненьне М. Лайкова прыстасаваць організацыйную структуру і самую працу агрономаў да капіталістычных форм разьвіцьця вёскі. Толькі сьляпы, або заведамы вораг соцыялістычных форм разьвіцьця вёскі можа ня бачыць таго, што ўжо сучасная вёска ня толькі ў выразных формах малюе зусім адваротную пэрспэктыву дзейнасьці агрономіі, але яна ўжо ставіць запатрабаваньні на гэтыя адваротныя формы. У значнай ступені сучаснасьць, а тым больш *будучыня эфэктыўнае дзейнасьці агрономіі, яскрава вызначаецца якраз у адваротных, а менавіта, у адным, або некалькіх паселішчах, вялізных паселішчах—колгаснага земляробства.*

Нарэшце спынімся на адным з прыёмаў навукова-дасьледчага аналізу М. Лайкова. Для тлумачэньня тых або іншых зьяў Лайкоў прыцятвае «комплекс» фактараў. Гэта комплекснасьць падносіцца, як нешта надзвычайна навуковае. Мы ня зьбіраемся даводзіць таго, што пры тлумачэньні конкрэтных зьяў ня прыцягвалася сума фактараў, ад якіх гэтая зьява залежыць. Наадварот, мы лічым, што кожную контрэтную зьяву трэба вывучаць ва ўсёй яе многаграннай сувязі. Але, калі тлумачэньне «комплексам» фактараў абмяжоўваецца простым іх пералічэньнем, ад чаго зьява, якая тлумачыцца, зацямняецца яшчэ больш, калі галоўнае не бярэцца за аснову і не адрозьніваецца ад другараднага, а, наадварот, зацямняецца, або зусім выпускаецца,— то тут мы маем справу з чысьцейшым эклектызмам, які ня здольны даць правільнага тлумачэньня тым або іншым зьявам. Праўда, М. Лайкоў ня спыніўся на простым пералічэньні «комплексу» фактару, як гэта робяць іншыя эклектыкі, ён, пры разглядзе пытаньняў—ад чаго залежыць зьмест работы агрономаў, спрабуе аналізаваць паданыя фактары праз устанаўленьне для кожнага з іх паасобку залежнасьці са зьяваю, якая тлумачыцца. Пры чым, устанаўленьне залежнасьці праводзіцца нават бяз жаднае ізоляцыі рэшты фактараў, а проста ў парадку чаргі. Нечага і даводзіць, што падобны аналіз не зьяўляецца навуковым і што даць ён нічога ня можа.

Пад канец разгляду працы Лайкова можна сказаць толькі наступнае:

1) Шкада, што патрачаны дарэмна час і сродкі на выданьне гэтае, бязумоўна, шкоднае кнігі;

2) Шкада, што НДІ імя Леніна паставіў свой штамп на такую нікчэмную з навуковага і шкодную з соцыяльнага боку працу, а тым самым абмануў і БДВ і чытачоў.

«Тэорытычныя ўгрунтаваньні» Лайкова, як ідэолёгічная сыстэма рэакцыйных, контррэволюцыйных элемэнтаў вёскі, ня могуць быць ня толькі прыняты, але і блізка дапушчаны да ўгрунтаваньня соцыялістычнае рэконструкцыі земляробства.

---

## БЕЛАРУСКІ НЭОНАРОДНІК [1]).

Далей мы разгледзім адну з прац, якая становіць сабою твор беларускага нэонародніка,—працу А. Смоліча пад назвою: «Організацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнае Беларусі».

Як мы ўжо зазначалі раней, паміж нэонароднікамі і кандрацьцеўцамі наогул, а тым больш ва ўмовах БССР, няма асаблівае розьніцы. Разгляданы зараз аўтар—А. Смоліч становіць сабою вельмі цікавы об'ект як з боку сувязі нэонароднікаў з кандрацьцеўцамі, так і з боку хістаньняў нэонародніцтва пад уплывам марксыцкае крытыкі і конкрэтнага соцыялістычнага будаўніцтва, з якім ім даводзіцца мець справу,—якое яны наглядаюць у штодзеным жыцьці. Паглядзім-жа, як гэта выглядае ў працах А. Смоліча.

Соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі, як і наогул соцыялістычнае будаўніцтва народнае гаспадаркі, немажліва без адначасовага дакладнага яе вывучэньня. Дакладнае і ўсебаковае вывучэньне сельска-гаспадарчых сыстэм (а таксама іх географічнага разьмяшчэньня), як выніку шматгадовага прыстасаваньня да існуючых натуральна-гістарычных (глеба, клімат ды інш.) і соцыяльна-экономічных (экономічная політыка, рынак, шляхі зносін і г. д.) умоў, зьяўляецца даволі важным прадпасылачным фактарам, які забясьпечвае пасьпяховасьць плянаваньня. Толькі атрымаўшы, праз папярэдні досьлед, пэўныя с.-г. раёны, прасачыўшы эволюцыю іх складаньня і ўстанавіўшы фактары, кіруючыя гэтай эволюцыяй, мы будзем мець цьвёрдую падставу для пабудовы сталай сыстэмы плянавых мерапрыемстваў па сельскай гаспадарцы наогул і зможам іх якасна дыфэрэнцыраваць у прастору. Але, ня гледзячы на такую

[1]) Гэты нарыс становіць сабою апрацаваную рэцэнзію, якая была напісана мною ў сааўтарстве з т. Бандарам Г. П. і надрукавана ў часопісе „Бальшавік Беларусі“, № 5 за 1928 г.

важнасьць вывучэньня, як аднаго з фактараў соцыялістычнага будаўніцтва ,мы маем яго на Беларусі, сьмела можна сказаць, у мінімуме. Дзякуючы апошняму, надзвычайна вялікі інтарэс набывае ўсякі досьлед, зьвязаны з сельскаю гаспадаркаю БССР. *І тым большую ўвагу і крытычныя адносіны павінны прыцягваць да сябе працы, прэтэндуючыя даць экономічны грунт, на які павінна накладвацца наша політыка плянавага кіраўніцтва, бо ад якасьці гэтага грунту будзе цалкам залежаць рацыянальнасьць мерапрыемстваў, а гэта значыць і посьпеху соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.*

З гэтага пункту погляду мы і будзем разглядаць працу А. Смоліча, якая ставіць у сваю задачу ня «толькі *тэорэтычныя* вышуканьні», але, у сваім устанаўленьні «раённых тыпаў сялянскай гаспадаркі ды іх географічным разьмяшчэньні», жадае мець адну з *асноўных* перадпасылак плянавага соцыялістычнага будаўніцтва Савецкае дзяржавы.

Разьбіраная праца А. Смоліча—«*Організацыя сялянскае гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнае Беларусі*»,—разглядае няўзбуйненую Беларусь (да 1923 г.) і грунтуецца як на матэрыялах масавае статыстыкі, так і матэрыялах праведзенага НКЗ, пад кіраўніцтвам аўтара, у 1923 г. досьледу.

Гэты досьлед быў праведзены «для мэт выстаўкі», на якую трэба было «выявіць характар тыпавое сялянскае гаспадаркі, а дзеля таго, што гатовых матэрыялаў, неабходных для гэтага, амаль-што ня было, дык прышлося здабыць іх праз адмысловае дасьледваньне».

Праца А. Смоліча «пачынаецца з с.-г. раёнаваньня Цэнтральнай Беларусі на падставе даных масавае статыстыкі». Далей тлумачыцца мэтодолёгія самаго бюджэтна-агрономічнага досьледу 1923 г., высьвятляюцца асноўныя ўмовы і фактары с.-г. вытвору і апісваецца організацыя продукцыйных галін гаспадаркі. У канцы высьвятляюцца пытаньні зыскоўнасьці гаспадаркі і яе галін, і робяцца належныя падсумаваньні і практычныя вывады. Да працы ў якасьці дадатку дакладваюцца валасныя падсумаваньні галоўных кніг дасьледваных гаспадарак, як асноўны сыры матэрыял, якім карыстаўся аўтар пры высьвятленьні пытаньняў аб структуры і разьмеркаваньні прыбытку. Як бачым з вышэйсказанага, задачы, пастаўленыя перад досьледам з боку НКЗ былі значна пашыраны аўтарам і з выяўленьня «тыповай сялянскай гаспадаркі» для выстаўкі яны зьвярнуліся ў устанаўленьне «раённых тыпаў сялянскае гаспадаркі і іх географічнага разьмя-

шчэньня»—для абгрунтаваньня політыкі Савецкае дзяржавы ў плянава-соцыялістычным будаўніцтве.

Паглядзім-жа наколькі выканана пастаўленая аўтарам задача і наколькі ўстаноўленыя ім раёны адпавядаюць таму, каб на іх грунтаваць «пляны агрономічнай работы», «мерапрыемствы зямельнае с.-г. політыкі» і г. д. [1]).

Перш за ўсё разгледзім тэорытычную ўстаноўку і тэорытычныя развагі аўтара.

Грунтоўнымі паказьнікамі пры сваім раёнаваньні сельскай гаспадаркі Беларусі А. Смоліч прымае «адзнакі агульна-геофрафічныя» (характар краявіду, гушчыня насяленьня) і гэтым паказьнікам надаецца вызначальная роля, напрыклад, паасобныя воласьці заносяцца ім у той ці іншы раён «паводле сваіх глеб».

Другарадным паказьнікам А. Смоліч бярэ: 1) дзесяцін засеву на адну гаспадарку, 2) пропорцыю палявых культур, 3) быдла на 100 дзес. засеву і г. д.

Апошнія паказьнікі характарызуюць, паводле Смоліча, «сельскагаспадарчыя адзнакі раёну». Усе гэтыя паказьнікі можна падзяліць на дзьве групы: 1) Натуральная (глеба, клімат, рэльеф) і 2) Натуралістычна-тэхнічныя (процантныя суадносіны культур, быдла, засеву ды інш.); першая група характарызуе ўмовы с.-г. вытвору, а другая—самы процэс.

Пры гэтым А. Смоліч лічыць, што «ў формаваньні тыпаў жывёлагадсўлі вялікае значэньне павінны мець суадносіны ральлі і прыроднае кармавое плошчы» (ст. 12) і далей «аднэй з важнейшых умоў, ад якіх залежыць організацыя сялянскае гаспадаркі ў Беларусі, ёсьць *спажыцьцё сям'і*»... «*спажыцьцё ўплывае на формаваньне* організацыі вытворчых галін» (стар. 40).

Гэтая сыстэма натуральных і натуралістычна-тэхнічных паказьнікаў, пакланеньне перад спажыцьцёвым уплывам сям'і на організацыйную структуру гаспадаркі і, нарэшце, угледжваньне непасрэднае залежнасьці організацыі гаспадаркі ад натуральных умоў, аб'яднаюць А. Смоліча з нэонародніцкай, дробнабуржуазнай школай у сельскагаспадарчай экономіі.

---

[1]) Зразумела, што мы разглядаем гэтыя моманты да ўмоў таго часу, калі праца А. Смоліча праводзілася, пісалася і друкавалася.

Гэтая школа спрабуе перадаць экономічную сутнасьць сельскае гаспадаркі і дыфэрэнцыяцыю яе тыпаў у прастору пры дапамозе розных натуралістычна-тэхнічных элемэнтаў сельска-гаспадарчага вытвору. Тымчасам, як зусім правільна зазначае Студэнскі (Очерки С.-х. экономии), што «земляробства і жывёлагадоўля невымяральныя ў натуралістычных элемэнтах, засеўная плошча і колькасьць рознага віду жывёлы ня маюць агульна-натуралістычнай меркі». На самай справе, што перш за ўсё значыць устанавіць сельска-гаспадарчыя раёны?—Гэта перш за ўсё значыць прасторавае параўнаньне колькаснай моцы як сельскай гаспадаркі наогул, так і ў яе паасобных галінах. Для таго-ж, каб зрабіць гэтае параўнаньне мажлівым, трэба мець параўнаўчую адзінку. Апошняй зьяўляецца грашовая адзінка, а агуловая продукцыя гаспадаркі (а таксама і тэрыторыя, паколькі сельская гаспадарка апошняй ёсьць сума гаспадарак, разьмяшчаных на ёй) наогул і ў падзеле на паасобныя галіны ёсьць найбольш поўны і аб'ектыўны паказьнік. З другога боку, характарыстыка арганізацыйных тыпаў сялянскае гаспадаркі не павінна прапушчаць такога моманту, як падзел на соцыяльныя групы ,бо так улюбёная нэонароднікамі сярэдняя гаспадарка не дае конкрэтнага ўяўленьня сапраўднасьці, а толькі замазвае апошнюю.

Праўда, гэтая сярэдняя гаспадарка ўзята А. Смолічам не як сярэдня-рытмэтычная, а некалькі орыгінальна, але гэтая орыгінальнасьць уносіць яшчэ большую блытаніну. Натуральная-ж «падстава» А. Смоліча пры раёнаваньні значыць, што сапраўднае разьвіцьцё гаспадаркі, як тэхнічны прогрэс і на яго падставе рост вытворчых сіл, адкідаецца.

Разрыў паміж натуральнымі і соцыяльна-экономічнымі фактарамі, гэта недыялектычнасьць падыходу да тлумачэньня залежнасьці с.-г. разьвіцьця ад розных фактараў, замазваньне сапраўднасьці сярэдняй гаспадаркай, а таксама натуралістычны памер наперад пакідаюць дасьледчыка з няправільнымі вынікамі.

Далей разгледзім: 1) мэтод арганізацыі досьледу, 2) распрацоўкі матэрыялаў і яго навуковай апрацоўкі і 3) вынікі, зробленыя аўтарам.

Перш за ўсё кідаецца ў вочы адсутнасьць падрыхтоўкі і выразнага навуковага падыходу да досьледу. Так, распрацоўка даных масавае статыстыкі, на падставе якіх і былі вызначаны аўтарам орыентыровачныя раёны, праводзілася ўжо пасьля бюджэтна-агрономічнага

дасьледваньня, у выніку чаго дасьледваныя гаспадаркі разьмеркаваліся паміж раёнамі зусім няроўна, а менавіта:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| I | раён— | дасьледвана | 34 | гаспадаркі |
| II | „ | „ | 20 | „ |
| III | „ | „ | 6 | „ |
| IV | „ | „ | 6 | „ |

Ня кажучы ўжо наогул аб недастатковай колькасьці матэрыялу для выкананьня пастаўленай аўтарам задачы, па 6 гаспадарках ні ў якім разе ня можна, ня толькі рабіць раёнаваньне, але і даць нават прыблізнай характарыстыкі організацыйных тыпаў сялянскае гаспадаркі.

Праўда, аўтар і не спрабуе рабіць раёнаваньне паводле матэрыялаў свайго досьледу, а скарыстоўвае гэты матэрыял для характарыстыкі тых раёнаў, якія вызначаны ім па даных масавае статыстыкі за 1916 г., зусім ігноруючы такі факт, як Кастрычнікавая рэволюцыя і зьмены ў сельскай гаспадарцы, якія адбыліся ў зьвязку з ёю.

Далей, узятыя для досьледу так званыя «тыповыя, сярэднія» гаспадаркі аказваюцца, нарэшце, па словах самаго аўтара, «у большасьці ня тыповымі», бо яны ў аднэй воласьці атрымаліся «даволі беднымі», а ў другой «крыху буйнейшыя», а то і зусім «хаваюць свае сапраўдныя разьмеры». А здарылася такая блытаніна таму, што ніякага навуковага падыходу ў выбары гэтых «тыповых» гаспадарак ня было, а пытаньне вырашалася суб'ектыўна студэнтамі (ды яшчэ першага курсу), якія праводзілі запаўненьне анкет. У выніку сказанага атрымаўся матэрыял, які шмат у якіх мясцох не задавальняе нават самаго аўтара.

Цэны, якія былі ўзяты аўтарам пры распрацоўцы матэрыялаў, як паказаныя гаспадарамі, так і сярэднія з гэтых паказаньняў па воласьці, павеце і Рэспубліцы, зьяўляюцца зусім умоўнымі і спрэчнымі.

Прынцыпова няправільным зьяўляецца і габінэтнае балянсаваньне продуктаў, якое аўтар чамусьці абараняе агульнымі развагамі аб крытычай праверцы, якую, нам здаецца, лепш за ўсё зрабіць з самым гаспадаром пры роспыце.

Норматыўны ўлік працы, ужываны аўтарам (стар. 62), дзякуючы «супярэчным паказаньням» матэрыялаў, зьяўляецца таксама недапушчальнай мэтодолёгічнай вольнасьцю.

У мэтодыцы вызначэньня раёнаў (узяцьце паказьнікаў, устанаўленьне інтэрвалаў, а таксама злучэньне паказьнікаў і інтэрвалаў) зусім адсутнічае выразнасьць. За падставу, як ужо было адзначана, аўтар бярэ натуральныя паказьнікі (характар краявіду), а другія ўжываныя паказьнікі групуе зусім мэханічна (нават без прытрымліваньня прынцыпаў так званага ім «самага простага спосабу картаграфаваньня»), у выніку чаго атрыманы раён зараз-жа рассыпаецца на рад падраёнаў, паміж якімі нават цяжка злавіць розьніцу.

Дзякуючы ўсяму вышэйсказанаму, як аб тэорытычнай установўцы аўтара, так і аб яго мэтодыцы і скарыстаных матэрыялах, вынікі гэтае працы патрабуюць да сябе вельмі крытычных адносін. У большасьці гэтыя вынікі зьяўляюцца зусім неўгрунтаванымі, інтуітыўнымі меркаваньнямі аўтара, а ў паасобных выпадках нават супярэчаць даным досьледу або пабудаваны на адмаўленьні паказаньняў апошняга.

Гэта можна паказаць на некалькіх прыкладах. Так, у спажыцьці сям'і аўтар знаходзіць на Беларусі паміж асобных валасьцей такую розьніцу, якая існуе паводле слоў аўтара, паміж спажыцьцём «немца і кіргіза». Розьніца ў спажыцьці хістаецца ад 53,1 жытніх адзінак (Буйнавіцкая воласьць) да 131,2 жытніх адзінак (Самахвалавіцкая воласьць).

Гэтая «дужа вялікая розьніца» тлумачыцца аўтарам тым, што «існуе, *мусіць*,(?) шмат прыродных, экономічных і культурна-гістарычных прычын» (стар. 119). На старонцы-ж 43 аўтар гэтымі-ж самымі прычынамі тлумачаць якраз адваротнае,—зглажваньне нераўнамернасьці спажыцьця.

Як бачым, колькасная недастатковасьць матэрыялу, адмыслова ўзятыя, так званыя, «тыповыя» гаспадаркі і цэны, далі сябе адчуваць і зусім заблыталі аўтара. На стар. 76 аўтар, разглядаючы сьвінагадоўлю, агарошвае чытача такім парадоксам, як катэгорычная, на падставе даных досьледу, заява аб тым, што «яна зьяўляецца адною з другарадных і маларэнтабельных галін», якая аплачвае працу селяніна «горш за ўсе іншыя галіны». Далей-жа, на стар. 77 аўтар, спалохаўшыся свайго вываду, заяўляе, што даных дасьледваньня «нельга лічыць характэрнымі для гэтай галіны ў Беларусі».

Другім парадоксам гучыць і такое сьцьвярджэньне аўтара, як большая за сьвіней рэнтабельнасьць авечак, якіх ён прызнае «інтэнсыўнай галінай» і ў адносінах да якіх жадае ўнесьці нешта самабытнае.

Можна яшчэ падаць цэлы шэраг супярэчных неўгрунтаваных разважаньняў аўтара, але досыць і гэтага.

У заключэньне трэба яшчэ спыніцца на надзвычайна вольных адносінах аўтара да беларускае мовы наогул і ўжываных ім у значным ліку штучных слоў. Як прыклад такіх вольных выразаў можна прывесьці:—«Алейнае семя», «Менская Беларусь» і шмат іншых. Што за «алейнае семя»?—А гэта, бачыце, ільлянае семя, з якога здабываецца алей. Дык з такім-жа правам мы можам назваць ільнянае быльлё «штанінным быльлём», бо з яго здабываюцца штаны, а ў выніку гэта будзе абсурд. Чаму «Менская Беларусь»?..

Ці возьмем ужываныя аўтарам словы:—«Ацэны», «перайсьцёвы», «первястковы», «усталёны пагляд» і г. д.

На гэтую рэцэнзыю быў напісаны А. Смолічам ліст—«У рэдакцыю часопісі «Бальшавік Беларусі»,—дзе рэцэнзія была абкрытыкавана. У адказ на гэты ліст А. Смоліча мною быў напісаны артыкул пад назваю: «Яшчэ раз аб тэорытычнай і мэтодолёгічнай блытаніне А. Смоліча», які зьмешчаны, разам з лістом, у часопісу «Бальшавік Беларусі» № 8 за 1928 год і які мы ў апрацаваным выглядзе падаем тут.

---

## ЯШЧЭ РАЗ АБ ТЭОРЫТЫЧНАЙ І МЭТОДОЛЁГІЧНАЙ БЛЫТАНІНЕ А. СМОЛІЧА.

Ліст А. Смоліча—«У рэдакцыю часопісі «Бальшавік Беларусі»— прымусіў нас яшчэ раз спыніцца на тэй блытаніне аўтара, якою ён падае, як сваю працу—«Арганізацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах цэнтральнай Беларусі»,—так і, абараняючы крытычную недатыкальнасьць апошняй, паказаны ліст.

Цікава, што аўтар «арганізацыі сялянскай гаспадаркі ў раёнах цэнтральнай Беларусі»—з аднаго боку, сам «заўважыў» і «адзначае шэраг заган» у гэтай працы, а таксама лічыць, што «яшчэ больш іх (заган—*С. М.)* прайшло для яго «незаўважанымі», а з другога боку—імкнецца даказаць, што ўсе «недахваты» тлумачацца об'ектыўнымі ўмовамі. Што об'ектыўнымі ўмовамі (або, як іх называе А. Смоліч, «умовамі працы і характарам матэрыялаў») можна ўсё «вытлумачыць», а па сутнасьці адмовіцца ад усякага тлумачэньня, дык гэта—даўно вядомая рэч і ня Смоліч яе выдумаў. Смоліч зьяўляецца толькі афяраю гэтага мэтодолёгічнага балота, дзякуючы яго незнаёмству і нежаданьню нават лічыцца з існуючымі тэорытычнымі і мэтодолёгічнымі «шаблёнамі», бо апошнія,—на яго думку,—«прымітыўны». Калі ўсе існуючыя мэтодолёгічныя «шаблёны» (выраз пазычаем у Смоліча) «прымітыўны» і калі характар матэрыялу абумоўлівае «заганы» і недахваты» працы, то дазвольце запытацца: чаму-ж у Вас атрымаўся такі матэрыял? А што матэрыял, сабраны праз «адмысловае дасьледваньне», мае шмат заган, дык гэта бясспрэчна. У нашай рэцэнзіі, якую А. Смоліч, праз цэлы набор злых (праўда, агульных і неўгрунтаваных) «фраз» і «адмысловай» блытаніны, жадае пазбавіць усякага аўторытэту, было сказана: «кідаецца ў вочы (пры разглядзе аддзелу «Арганізацыя дасьледваньня»—*С. М.)* адсутнасьць падрыхтоўкі і выразнага навуковага падыходу да досьледу.

Так, распрацоўка даных масавае статыстыкі, на падставе якіх і былі вызначаны аўтарам орыентовачныя раёны, праводзілася ўжо насьля бюджэтна-агрономічнага дасьледваньня (як-жа Вы, А. Смоліч, орыентавалі апошняе?—Рэдакцыя *«Б. Б.»)*, у выніку чаго дасьледваныя гаспадаркі разьмеркаваліся паміж раёнамі зусім ня роўна, а менавіта:

| | | | |
|---|---|---|---|
| I раён—дасьледвана | | 34 | гаспадаркі |
| II | „ „ | 20 | „ |
| III | „ „ | 6 | „ |
| IV | „ „ | 6 | „ |

Аб гэтым А. Смоліч у сваім лісьце не абмаўляецца ні адным членападзельным гукам, а тут-то і хаваецца цэлы вузел, яго-ж непаразуменьняў. Па якому, напрыклад, прынцыпу рабілася орыентацыя—на раёны, воласьці, вёскі, гаспадаркі? Чаму былі ўзяты толькі праспалосныя (ці, як іх А. Смоліч называе—«шнуравыя») вёскі, і абмінуты іншыя формы зямлякарыстаньня? Чаму былі ўзяты толькі «тыповыя, сярэднія» гаспадаркі і як апошнія былі абраны «тыповымі», калі, як сам аўтар кажа, «масавае статыстыкі па пытаньнях дыфэрэнцыяцыі сялянства ў Беларусі» ня было?

На гэтыя запытаньні А. Смоліч адказаць ня здолее, бо ніякай прынцыповай орыентацыі ў яго ня было падрыхтавана, а ўся гэтая справа была аддана на вырашэньне паасобных рэгістратараў, студэнтаў першага курсу, якія ні аб бюджэтным дасьледваньні, ні нагул аб сельска-гаспадарчай экономіі звычайна яшчэ нічога ня ведаюць.

У выніку такой організацыі дасьледваньня і атрымаўся матэрыял, аб якім сам аўтар (ня ґледзячы на яго катэгорычныя адмаўленьні ў лісьце) кажа: «Сярод *выкарыстаных* матэрыялаў *шмат якія* нездавальнялі нават вельмі скромным вымаганьням да тэхнікі сьпісваньня (?) анкеты, з прычыны малой падрыхтаванасьці працаўнікоў» (стар. 23—24, падкрэсьлена намі—*С. М.)*. А, напрыклад, аб Ленінскай воласьці аўтар кажа, што, «тут, *насупроць* таго, што мы бачылі ў Самахвалавіцкай воласьці, дасьледваны, калі не адсталыя, дык даволі *бедныя* гаспадаркі» (стар. 24, падкрэсьлена намі—*С. М.)*.

Аб Ляскавіцкай воласьці на стар. 26 гаворыцца, што «у гэтай воласьці былі ўзяты, відаць (?), крыху (?) *буйнейшыя* гаспадаркі, якія, магчыма (?), хаваюць свае сапраўдныя разьмеры» (падкрэсьлена намі—Рэдакцыя *«Б. Б.»)* і шмат яшчэ падобных да гэтага сьцьвяр-

джэньняў аўтага можна было прыпадаць, але спадзяемся, што сумленасьць полемічных прыёмаў А. Смоліча і гэтым даказана.

Што-ж гэта? Выходзіць, што «калі на клетцы сланя прачытаеш надпіс: буйвал»,—ня вер вачам сваім?»

Адзначаючы ў нашай рэцэнзіі якасьць «адмыслова» сабранага матэрыялу, мы яшчэ дадаем: «ня кажучы ўжо наогул аб недастатковай колькасьці матэрыялу для выкананьня пастаўленай аўтарам задачы, *па 6 гаспадарках* ні ў якім разе ня можна, ня толькі рабіць раёнаваньня, але і даць нават прыблізнай характарыстыкі організацыйных тыпаў сялянскае гаспадаркі». Адчуваючы, што гэта іменна так, А. Смоліч у сваім лісьце папраўляецца тым, што вызначае яшчэ раз задачы сваёй працы—«Організацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах цэнтральнай Беларусі»,—падганяючы іх да характару зробленага раёнаваньня. Так, ён піша: «Задачай маёй працы было даць *аналіз* важнейшых *географічных (раённых) тыпаў* сялянскае гаспадаркі Цэнтральнае Беларусі на падставе бюджэтных матэрыялаў».

Як бачым, «пытаньне аб раённых тыпах сялянскае гаспадаркі і іх географічным разьмяшчэньні» ўжо падмяняецца толькі «аналізам» «раённых тыпаў», якія нямаведама адкуль зьявіліся. Але гэта яшчэ ня ўсё. Далей аўтар робіць географічную «ўвязку» гэтых «важнейшых географічных (раённых) тыпаў» пры дапамозе «грубай схэмы раёнаваньня цэнтральнай Беларусі па даных 1916 г.» (падкрэсьлена намі—*С. М.)*.

Ня кажучы ўжо аб лёгічнай нявытрыманасьці падобных мэтавых вызначэньняў А. Смоліча, кідаецца ў вочы яго тэрміналёгічная блытаніна і таўтолёгія, як-то: географічны (раённы) тып і, зноў-ткі, яго географічнае разьмяшчньне (?), а таксама ўвязка гэтых географічных—раённых, географічна разьмяшчаных, тыпаў з «агульнаю сыстэмаю географічных ведаў». А што-ж становіць сабою «сыстэма агульнагеографічных ведаў», з якою робіцца ўвязка? А гэта, зноў-ткі,— «географічныя (раённыя)» тыпы, толькі ўжо не сялянскай гаспадаркі, а наогул сельскае гаспадаркі, атрыманая па даных 1916 г.

Апошнія даныя «захапляюць усе гаспадаркі бяз розьніцы катэгорый як сялянскія, так і прыватна-ўласьніцкія». І вось, з такімі даными робіцца А. Смоліч як рознае параўнаньне даных 1923 г., атрыманых толькі з так званых «тыповых, сярэдніх» гаспадарак. А таксама і раёны, атрыманыя на падставе даных за 1916 г., зьяўляюцца раёнамі, на якія мэханічна нашываюцца даныя за 1923 г. Выбачайце,

падобныя прыёмы інакш як складаньнем аршынаў з пудамі, і назваць нельга.

А што да даных перапісу 1916 г., то мы і ня думалі супярэчыць іх умеламу выкарыстаньню.

Тое-ж самае гавораць і словы з нашае рэцэнзіі (якія чамусьці падабалася А. Смолічу перапраўляць па-свойму): «Праўда, аўтар і не спрабуе рабіць раёнаваньня паводле матэрыялаў свайго досьледу, а скарыстоўвае гэты матэрыял для характарыстыкі тых раёнаў, якія вызначаны ім па даных масавае статыстыкі за 1916 г., зусім ігнаруючы такі факт, як Кастрычнікавая рэволюцыя і зьмены ў сельскай гаспадарцы, якія адбыліся ў зьвязку з ёю». Тут, як бачыце, не адцягненае ігнараваньне Кастрычнікавай рэволюцыі (як гэта блытае А. Смоліч), як соцыяльна-палітычнае зьявы, а конкрэтны няўлік «зьмен у сельскай гаспадарцы», во ў чым справа. І вось, калі, пасьля такой блытаніны, А. Смоліч ганарыста ўздымае галаву і з вышыні птушынага палёту пачынае яшчэ нас «выпраўляць», дык гэтая яго поза выклікае толькі сьмех. Але гэтая пазыцыя яму падабаецца і з яе ён абвальваецца ўсім сваім цяжарам на паданую намі ў рэцэнзіі клясыфікацыю ўжываных ім паказьнікаў, разблытваючы «заблытаныя» намі катэгорыі і цэлым радам пытальнікаў, настаўленых ні к сялу, ні к гораду, зусім зьнішчае паданую клясыфікацыю.

Даводзім, у сваю чаргу, да ведама А. Смоліча, што падобная клясыфікацыя не зьяўляецца выдумкаю «рэцэнзэнта» і ня нова ў літаратуры, а каб не заставацца няпісьменным, нават у такіх прымітыўных пытаньнях і каб ня быць саматужнікам, шчыра раім зьвярнуць ўвагу на азнаямленьне з існуючымі «прымітыўнымі шаблёнамі» наогул, а па даным пытаньні прачытаць у першую чаргу хаця-б такія падручнікі, як вядомыя працы па раёнаваньню Б. Н. Кніповіча і Н. П. Нікіціна. Дый што-ж па сутнасьці, акрамя блытаніны, унёс А. Смоліч сваім тлумачэньнем гэтых паказьнікаў? У нашай рэцэнзіі вельмі выразна сказана, «што ўжываныя А. Смолічам паказьнікі можна падзяліць на дзьве групы: 1) натуральныя (глеба, клімат, рэльеф) і 2)—натуралістычна-тэхнічныя, процантныя суадносіны культур, быдла на 100 дзес. засеву і інш.).

Першая група характарызуе ўмовы сельска-гаспадарчага вытвару, а другая самы процэс».

Не падабаецца А. Смолічу тэрмін «натуральныя» (уразуменьні—«естественные»), добра, называйце іх прыроднымі (спрачацца за гэтае

з Смолічам ня будзем, хаця даная намі назва і «згодна з беларускай тэрмінолёгіяй». Але-ж Вы іх зразумелі? А раз зразумелі, дык чаму-ж крыўляцца і падымаць шум?

Мы падрабязна не разьбіраем пытаньня аб тым, на колькі поўна ахапляюць паказьнікі прадпасылкі, прыцягнутыя Смолічам (першая група), усе ўмовы с.-г. процэсу, бо для гэтага патрабавалася-б шмат месца, скажам толькі, што пакольні аўтар «організацыі сялянскае гаспадаркі ў раёнах цэнтральнае Беларусі» карыстаецца пры раёнаваньні (ня гледзячы на ўсе адмоўныя запэўненьні) пераважна першаю групаю паказьнікаў (а інакш і зрабіць ён ня можа), бо па выпадку падаванага ім, як ужо раней было сказана, параўнаньня непараўнальных велічынь, гаспадарчыя адзнакі валасьцей, па даных 1923 г., ня сходзяцца з гаспадарчымі адзнакамі раёнаў, атрыманых па даных 1916 г.), то атрыманыя раёны, па сутнасьці, не зьяўляюцца эканамічнымі раёнамі. Калі дадаць яшчэ да гэтага наяўнасьць мэханічнае групоўкі рэшты паказьнікаў і інтэрвалаў на паказьнікі першае групы, узятыя за падставу, ды калі зразумець усё гэтае ня блытаўшыся, дык і стане зразумелым, «што благога» ў тым, што раёны рассыпаюцца на рад падраёнаў.

Праўда, А. Смоліч маўкліва прызнае адсутнасьць вытрыманае мэтодолёгіі раёнаваньня, але ён за тое нападае на нас з другога боку. Вельмі не падабаецца яму:

1) «угледжваньне непасрэднае залежнасьці організацыі гаспадаркі ад натуральных (ці, па Смолічу, прыродных) умоў»;

2) «пакланеньне перад спажыцьцёвым уплывам сям'і на організацыйную структуру гаспадаркі» і

3) аб'яднаньне яго «з нэонародніцкай, дробна-буржуазнай школай у с.-г. экономіі».

Разгледзім па парадку вельмі павярхоўную аргумэнтацыю аўтара па гэтых пытаньнях.

Па першаму пытаньню ён кажа ў сваім лісьце: «Калі мы хочам вытлумачыць сабе *прыродную базу, на якой разьвіваецца пэўны тып гаспадаркі*, дык гэта ніяк не (тут ён бярэ словы рэцэнзіі ў зьнішчальныя лапкі—*С. М.)* «азначае, што сапраўднае разьвіцьцё гаспадаркі, як тэхнічны прогрэс і на яго падставе рост вытворчых (у рэцэнзіі была зроблена апіска і замест вытворчых надрукавана—«тэхнічных»—*С. М.)* сіл адкідаецца (падкрэсьлена намі—*С. М.)* і далей ідзе запэўненьне аб тым, што раёнаваньне не грунтавалася «выключна

на прыродных умовах краю». Тут-жа А. Смоліч даводзіць да нашага ведама, што ня ён трымаецца погляду, нэонароднікаў, а... «рэцэнзэнт» (!). Мэтод і аргумэнтацыя, як бачыце, дасьціпныя, але папрабуем іх разабраць.

Што азначае «вытлумачыць сабе прыродную базу, на якой разьвіваецца пэўны тып гаспадаркі»? Выходзіць, што пэўнай прыроднай базе ўласьцівы пэўны тып гаспадаркі, або, наадварот. Інакш гэта сьцьвярджэньне разумець ня можна. Не разумее яго інакш і А. Смоліч, бо ён ніколі не задумляецца аднесьці асобную воласьць у тэй альбо іншы раён «галоўным чынам паводле сваіх глеб» (стар. 40), ня гледзячы на тое, што конкрэтны тып гаспадаркі не адпавядае «прыроднай базе» (апошняе, відаць, лічыцца А. Смолічам жыцьцёвай недарэчнасьцю). Акрамя таго, праца Смоліча затаўкаецца вельмі частымі падкрэсьліваньнямі накшталт таго, што «ў фармаваньні тыпаў жывёлагадоўлі *вялікае* значэньне *павінна* (?) мець суадносіны ральлі і прыроднае кармовае плошчы». (Падкрэсьлена намі—*С. М.)* і г. д.

Каб паказаць А. Смолічу адсутнасьць у яго тлумачэньнях дыялектычнага разуменьня «залежнасьці с.-г. разьвіцьця ад розных фактараў», мы хочам прывесьці толькі дзьве цытаты з Плеханава.

1) «Дзейнічаючы на прыроду па-за ім, чалавек зьмянае сваю ўласную прыроду. Ён разьвівае ўсе свае здольнасьці, а паміж імі і здольнасьці да вырабу прыкладаў. *Але ў кожны даны час мера гэтае здольнасьці вызначаецца мераю ўжо дасягнутага разьвіцьця вытворчых сіл*». (Н. Бельтов. К вопросу о развитии монистического взгляда на историю, стар. 124, падкрэсьлена аўтарам).

2) «Разьвіцьцё вытворчых сіл, якое вызначае сабою, нарэшце, разьвіцьцё ўсіх грамадзкіх адносін, вызначаецца *асаблівасьцямі геаграфічнага асяродзішча*. Але, раз вынікнуўшы, даныя грамадзкія адносіны *самі робяць уплыў на разьвіцьцё вытворчых сіл*. Такім чынам, тое, *што спачатку зьяўлялася вынікам, у сваю чаргу становіцца прычынай*». (Г. В. Плеханов. Основные вопрасы марксизма, стр. 39,—падкрэсьлена намі—*С. М.)*.

Мы лічым, што тлумачэньні А. Смоліча вельмі далёкі ад тлумачэньняў, паданых у гэтых цытатах, бо насадзіць разьвіцьцё тыпу гаспадаркі проста і непасрэдна на «прыродную базу» можа толькі эконамісты, які нічога агульнага ня мае з марксызмам.

Па другому пытаньню, аб спажыцьцёвым уплыве сям'і на арганізацыю вытворчых галін аўтар лісту абмяжоўваецца спасылкаю на стар. 130 сваёй працы, дзе ён параю слоў (падаю іх цалкам) з 150 старонак усяе працы абмовіўся аб тым, што ў «інтэнсіўна-земляробчых раёнах разьвіцьцё коопэрацыі... і больш поўнае формы колектыўнае гаспадаркі будуць мець найбольш дасьпелую глебу (чаму?—*С. М.)* і спагадлівыя ўмовы».

Ну што-ж: і «самы далёкі пункт зямное кулі да чаго-небудзь ды блізкі».

Каб мы сталі крытыкаваць А. Смоліча згодна яго паасобных «фраз», то ня ведаю, што-б атрымалася; у кожным разе можна было-б зрабіць з яго, што толькі пажадана. Цікава, а мусіць А. Смоліч наўмысьля пасыпае сваю працу супярэчнымі меркаваньнямі дзеля таго, каб мець пры неабходнасьці шчыліну?.. Але гэта ўжо яго справа. У кожным разе, спажыцьцё фігуруе ў аўтара «аднэй з важнейшых умоў, ад якіх залежыць організацыя сялянскае гаспадаркі ў Беларусі (?)»... І паўтараюцца гэтыя ўмовы даволі часта. Праўда, гаворыць аўтар і аб рынку, але гэта ў яго толькі паміж іншым.

Аб ужываньні агуловага прыбытку, выражанага валерыстычна (як цалком, так і па паасобных галінах гаспадаркі), для мэт выяўленьня сельска-гаспадарчых тыпаў і іх географічнай лёкальнасьці, А. Смоліч не «супярэчыць», наадварот, ён лічыць сябе піонэрам па яго ўжываньню. «Яшчэ раней,—кажа Смоліч,—чым запрапанавалі свой мэтод Котаў і Студэнцкі, я ў данай працы (Організацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах цэнтральнай Беларусі—*С. М.)* прыцягваю для характарыстыкі раённых тыпаў гаспадаркі аналіз валавога і чыстага прыбытку і разьмеркаваньне апошняга». Што агуловы прыбытак прыцягваецца ў працы Смоліча (праўда, не валёрыстычна выражаны, а ў жытніх адзінках, што крыху розьніцца) мы гэтага не адмаўляем, пытаньне толькі ў тым, як ён яго ўвязвае ў «агульную сыстэму» сваёй працы. Ці-ж гэты агуловы прыбытак зьяўляецца ў яго падставаю?— Вядома не. Ён толькі прыцягнуты па прынцыпу: «Каб было ўсяго па троху».

Вось наконт таго, што Смоліч, або іншыя, падаваныя ім аўтары, першыя прапанавалі гэты мэтод,—можна паспрачацца. Адначасова можна паспрачацца і наконт таго, што А. Смоліч называе гэты мэтод «буржуазным» (!) і тым самым думае кагось запужаць. Дарэмна, зусім дарэмна ўжываць такія прыёмы, бо гэтаму могуць паверыць

тслькі дзеці, ды то, глядзеце, не нарвецеся на піонэра, які можа папрасіць даказаць такую догму. Бо па аднаму таму, што падобны мэтод прапануе *зараз* (падкрэсьлена мною—*С. М.)* буржуазны экономісты Студэнскі, яшчэ ня знача, што гэты мэтод «буржуазны» па сваёй сутнасьці. (Мы, разумеецца, не гаворым у даным выпадку аб дэталях гэтага мэтоду).

І тут мы цалкам згодны з С. Г. Ужанскім, які кажа: «Г. А. Студэнскі, буржуазны тэорэтык, зрабіў вялікі крок уперад, стаўшы на шлях прызнаньня об'ектыўна соцыялістычнага мэтоду, у чым ён зблізкаецца (як наогул буржуазія), у адзнаку ад А. М. Чэлінцава (ды і наогул усіх дробна-буржуазных тэорэтыкаў), з асноўным падыходам марксыцкае школы (С. Г. Ужанскі. Основные измерители состояния, эволюции и прогресса сельского хозяйства, стр. 10).

Наконт паходжаньня самаго мэтоду А. Смоліч таксама глыбока памыляецца, ня ён і ня Студэнскі з Котавым упяршыню загаварылі аб гэтым мэтодзе, а Ў. І. Ленін. Так, яшчэ ў 1913 г. У. І. Ленін пісаў: «Групоўка земляробчых гаспадарак, павялічэньне плошчы зямлі, занманай, або апрацоўванай імі, ёсьць адзіная групоўка, ужываная... у значнай большасьці эўропэйскіх краін». «Але яна (гэтая групоўка—*С. М.)* яўна недастаткова, бо зусім ня ўлічвае процэсу інтэнсыфікацыі земляробства, росту затрат капіталу на адзінку зямельнае плошчы ў выглядзе жывёлы, машын, палепшанага насеньня, палепшаных прыёмаў культуры і г .д.». «Таму групоўка гаспадарак па колькасьці зямлі ў значнай большасьці выпадкаў уносіць празьмернае спрашчэньне і пагрубленьне ва ўяўленьні аб разьвіцьці земляробства». І далей: «Групоўка гаспадарак па велічыні грашовай вартасьці продуктаў, якія ня йдуць у корм жывёле, робяць вялікі крок на сустрэчу... важнейшаму тэорытычнаму запатрабаваньню». (Н. Ленін. Собрание сочинений, т. IX, ст. ст. 221, 222, 228).

Як можна з гэтых цытат упэўніцца, разважаньне А. Смоліча адносна буржуазнасьці і паходжаньня гэтага мэтоду зьяўляецца проста памылкаю, вынікаючай з няведаньня літаратуры.

Такім чынам, пункт рэцэнзіі, аб далучэньні А. Смоліча да нэонародніцкай школы, цалком пэўны, бо ўсе пералічаныя ў ім элемэнты (сярэдняя гаспадарка, натуралістычна-тэхнічныя паказьнікі, бачаньне непасрэднае залежнасьці тыпу гаспадаркі ад натуральных умоў і асабліва ад *спажыцьця сям'і)* ў наяўнасьці. Праўда, такі конгломэрат эле-

мэнтаў не ўва ўсякага народніка спаткаецца, але ў гэтым, відаць, і сутнасьць А. Смоліча.

Дэкрэтыўная заява А. Смоліча адносна таго, што намі «беспадстаўна» залічаюцца гэтыя катэгорыі ў нэонародніцкі багаж зьяўляецца ні больш, ні менш, як непаразуменьнем, вынікаючым, зноўткі, з недастатковай сьвядомасьці аўтара, бо падобнае залічэньне не зьяўляецца новым. Раім Смолічу, раней, чым разважаць па гэтым пытаньні, азнаёміцца хоць крыху з марксыцкай крытыкай нэонародніцкай школы, у прыватнасьці, на першы раз раім прачытаць працу Крыцмана—«Три отзыва о работах представителей мелко-буржуазной экономии».

Паўстае толькі пытаньне:—як папаў А. Смоліч у гэтую школу? Яго напалоханасьць і ўпартае адмаўленьне ад такога «шкоднага ярлыка» прымушае нас думаць, што аўтар «Організацыі сялянскае гаспадаркі ў раёнах цэнтральнае Беларусі» залез туды не таму, што гэтая школа яму падабаецца, а дзякуючы сваёй, мякка кажучы, неасьцярожнасьці і свайму нежаданьню лічыцца з існуючымі тэорытычнымі і мэтодолёгічнымі «шаблёнамі», якіх ён далёка не перарос.

У заключэньне хочацца яшчэ сказаць, што дарэмна А. Смоліч пацяшаўся над нашымі здольнасьцямі ў філёлёгіі, бо яго «алейнае семя», ня гледзячы на тлумачаньні (сэнс якіх нам і бяз Смоліча быў добра вядомы), пакідае ўсё-ж за намі права назваць ільнянае быльлё—«штаніным быльлём». Каб даказаць нашу няпісьменнасьць, А. Смоліч прыцягвае на дапамогу расійскую мову (лічучы, відаць, што гэта для нас будзе больш зразумела), але дазвольце Вас, не абы які філёлёг і экономісты, запэўніць, што, па-першае, дакладны пераклад «алейнага семя» будзе не «масличные семена», а «масленые семена» і, па-другое, што і па-расійску пісьменныя людзі ня кажуць ні «масленые семена», ні «масличные семена», а звычайна гавораць—«семена масличных»... а ў гэтым-то і справа.

Калі ў разгледжаных намі пытаньнях з працы А. Смоліча, або ў такіх заўвагах, як сьцьвярджэньне, што «вывучэньне сялянскае гаспадаркі, яе організацыйнага боку, мае вялікае, і ў сучаснасьці можна лічыць агульна прызнанае (зачым гэта?—*С. М.*) значэньне» (стар. 1), або такая заўвага: «Тае пераабцяжанасьці мёртвым інвэнтаром, якую адзначае проф. Літошанка для большасьці раёнаў Саюзу, мы тут ня бачым, наадварот, ёсьць выразны недахват інвэнтару, асабліва моцна выяўлены ў паўднёвым Палесьсі» (стар. 53)—ён цал-

ком зьліваецца з расійскімі нэонароднікамі і толькі ў «тыповых гаспадарках» падыходзіць да беларускіх кандрацьцеўцаў, ды ў далейшай сваёй працы ён вельмі шчыльна з імі злучаецца.

Так, у адзначанай раней працы—«Нарысы сельскай гаспадаркі Мазырскага Палесься»,—якая праводзілася і пісалася ім у момант квітнеючай кулацкай політыкі НКЗБ—«прышчэпаўшчыны,—у момант значнага ўзросту актыўнасьці кулака і яго ідэолёгаў да аграрнае політыкі Савецкае ўлады, Смоліч выкідвае ўжо больш сьмелыя лёзунгі. Ён заяўляе ў адзначанай працы, што хутары «знаходзяцца ў лепшых умовах адносна ўгнаеньня і затым ня дзіва, што пабудаваўшыся сярод бясплодных аблог і пустак, яны выглядаюць даволі весела», або: «сяляне зайздросьцяць пасялкоўцам і заяўляюць, што, каб ім далі такой зямлі, дык-бы і яны з ахвотаю расьліліся на пасёлкі». Якая ідылія!.. Таму «лёзунгам пабудовы сельскае гаспадаркі ў Мазырскім Палесьсі,—кажа А. Смоліч,—павінна быць: барацьба з аблогаю, з пусткамі, з пярэстапалёўкаю, за культурную плодазьменную гаспадарку ў зямляўпарадкаваным пасёлку, за шыбчэйшае засяленьне, Палесься».

Якая ўжо тут розьніца,—запытаемся мы,—паміж беларускім нэонароднікам і беларускім кандрацьцеўцам. Калі-ж да гэтага дадаць яшчэ раней разабраныя асноўныя прынцыпы пабудовы працы былога Аддзелу С.-г. экономіі і аграрнае політыкі БНДІ, у працы якога кіраўнічы ўдзел у якасьці Загадчыка прымаў А. Смоліч, то малюнак зусім ясны.

Калі-ж зьнішчана была політыка «прышчэпаўшчыны»,—калі на базе ўзросту соцыялістычных элемэнтаў у народнай гаспадарцы, бядняцка-серадняцкія масы сялянства, пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго партыі прыступілі да рашучае соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнае колектывізацыі,—калі магутная хваля пралетарскае крытыкі і самакрытыкі закранула і ідэолёгаў кулацтва—нэонароднікаў і кандрацьцеўцаў,—А. Смоліч трусьліва кінуўся ў бок ад ранейшых сваіх сцьвярджэньняў, пасыпаліся «соцыялістычныя» выразы і нават паасобныя вусныя прызнаньні адзначаных раней памылак і, трэба адзначыць, што выпушчаная ім апошняя праца—«Сельска-гаспадарчыя раёны Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі ў 1927—28 г. г.» пакідае ззаду ранейшую яго блытаную балбатню і мае шмат чаго, бязумоўна, карыснага.

# ЗЬМЕСТ



---

